


«Шляхам Тызенгаўза» →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Малітва за Беларусь →9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 43 (3362) Год LXV | Беласток, 25 кастрычніка 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Праца Аляксандры Жукавіцкай з Орлі




Кінга Сапёлка з Гайнаўкі

# Я нарадзіўся тут

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы арганізаваў другі выпуск мастацкага конкурсу «Я нарадзіўся тут». Падвядзенне яго вынікаў і адкрыццё конкурснай выставы мела адбыцца вясной гэтага года. Аднак з-за абмежаванняў у дзейнасці школ і Гайнаўскага белмузея па прычыне эпідэміі каранавіруса канчатковая дата дасылання прац была перанесена на пачатак канікулаў. У кіназале і на выставачнай плошчы белмузея 7 кастрычніка спаткаліся аўтары дасланых мастацкіх работ, іх бацькі і настаўнікі, каб даведацца аб выніках конкурсу і паглядзець экспазіцыю лепшых узнагароджаных і вылучаных прац.

Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк звярнуў увагу на высокі мастацкі ўзровень лепшых прац і паінфармаваў, што да конкурсу прыступіла 38 удзельнікаў з прадшколляў і пачатковых школ Гайнаўскага, Бельскага, Сакольскага паветаў і горада Беластока, а таксама вучні Гайнаўскага белліцэя. Конкурсная камісія, у якой працавалі беластоцкі мастак Міраслаў Здрайкоўскі, варшаўская мастачка Аляксандра Чарняўская ды графік і ілюстратар кніжак для дзяцей Агата Лукша з Гайнаўкі, узнагародзіла і вылучыла працы 21 удзельніка, якія кваліфікавала на выставу. Агнешка Ціханюк, адказная за мастацкую актыўнасць Гайнаўскага белмузея, звярнула ўвагу на цікавы, а ў некаторых выпадках арыгінальны падбор тэм конкурсных работ, якія трапна спасылаліся на лозунг конкурсу «Я нарадзіўся тут».

— Працы выкананыя былі акварэльнымі, акрылавымі і нават алейнымі фарбамі, пастэлямі і тушшу. Некалькі прац былі выкананы тэхнікай манатыпіі. Былі таксама работы зроблены мяшанымі тэхнікамі. Дашкольнікі і вучні вынаходзілі цікавыя тэмы для сваіх работ, на якіх па-рознаму паказвалі сваю малую бацькаўшчыну, дзе жывуць самі або пражываюць іх продкі і куды ездзяць у госці, — сказала Агнешка Ціханюк.

На конкурснай выставе было бачна, што многія ўдзельнікі конкурсу выканалі працы, якія спасылаліся на традыцыю вёсак, дзе жылі або і надалей пражываюць іх продкі. Паколькі дашкольнікам і вучням яны вельмі важныя, іх можна ўбачыць на працах на фоне вясковых хат або на прыродзе. У конкурсе «Я нарадзіўся тут», які арганізуецца ў рамках праекта «Прыгранічны этнічны альянс», маглі прыняць удзел усе ахвотныя дашкольнікі і вучні пачатковых і сярэдніх школ.

— У мінулым годзе было каля шасцідзесяці ўдзельнікаў, сярод якіх былі вучні бельскіх «тройкі» і белліцэя. Магчыма, што заахвочвалі іх да ўдзелу ў нашым конкурсе настаўнікі беларускай мовы. У гэтым годзе вясной, у час дасылання прац, вучні займаліся дома і іх кантакт з настаўнікамі быў абмежаваны. Таму мы прадоўжылі тэрмін дасылання прац да пачатку канікулаў і сёлета найчасцей бацькі даглядалі, каб іх дзеці выканалі работы на наш конкурс. На конкурснай выставе змешчаны ўзнагароджаныя і вылучаныя працы, якія ацэньваліся ў чатырох катэгорыях — дашкольнікі, вучні малодшых (I-III) і старэйшых (IV-VIII) класаў пачатковых школ ды вучні сярэдніх школ, — удакладніла Агнешка Ціханюк.

На падвядзенне вынікаў конкурсу з гайнаўскімі белліцэістамі прыйшоў намеснік дырэктара Гайнаўскага белліцэя Дарыюш Мусюк. Звярнуў ён увагу на патрэбу будавання ў вучняў пашаны да сваёй бацькаўшчыны. На гэта робяць стаўку настаўнікі белліцэяў у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім, у бельскай «тройцы» і іншых школах, дзе вядзецца навучанне беларускай мове. Настаўнікі знаёмяць вучняў, між іншым, з гісторыяй і мясцовай традыцыяй, з выбранымі падзеямі ў рэгіёнах кампактнага пражывання беларусаў. Настаўнікі могуць больш часу адвесці на адны або другія моманты і месцы, якія тычацца малой бацькаўшчыны. Я запытаў пераможцаў конкурсу, на што яны звярталі ўвагу падбіраючы змест для сваіх мастацкіх прац.

— Я рашыла намаляваць краявід з наваколля вёскі Гродзіск Нараўчанскай гміны, дзе жыла мая бабуля. Я любіла туды ездзіць у час канікулаў і там адпачываць. На рабоце паказала асаблівасці краявіду, якія запамятала з дзяцінства і якія захаваліся на старых фатаграфіях. На маёй працы бачны лугі са стагамі, з драўлянымі агароджамі, каб каровы не выходзілі на дарогу. Сваю карціну намалявала я алейнымі фарбамі. Бацька, які таксама многа малюе, вучыць мяне тэхніцы малявання, падказваў як паказаць перспектыву на карціне, — заявіла Кінга Сапёлка з Гайнаўкі. — Зараз я студэнтка першага курса французска-іспанскай філалогіі, але калі быў абвешчаны конкурс я была яшчэ ліцэісткай. Я рада, што атрымала першую ўзнагароду ў катэгорыі вучняў сярэдніх школ і гэта заахвочвае, каб маляваць у будучыні тое, што мне важнае і дарагое.



Марыя Ціханюк з Гайнаўкі

— Ідэя конкурсу вельмі каштоўная, паколькі заахвочвае маладых людзей вяртацца да мінулага і традыцый, якія захаваліся на нашых тэрыторыях або паказвання сучаснасці, якая таксама важная для дзетак і моладзі. Бачу, што некаторыя дашкольнікі і вучні арыгінальна паказваюць тое, што для іх дарагое. Тут на выставе ёсць спелыя ў мастацкім плане працы, а іх аўтары засвоілі ўжо асноўны варштат малявання ці рысавання. Мне тут спадабаліся дзве работы, гледзячы на якія можна па-рознаму ўспрымаць задуму іх аўтараў. Сярод старэйшых вучняў пачатковых школ арыгінальна, бо ў тэхніцы манатыпіі, паказаны Анастасіяй Грамацкай з Гайнаўкі (не прыбыла на сустрэчу, — А. М.) вясковы краявід з бабуляй і дзядулем, за што яна атрымала першую ўзнагароду ў катэгорыі старэйшых вучняў пачатковых школ. Падобны матыў на рабоце Марыі Ціханюк, на якой вясковы краявід выкананы тушшу. Марыя рысуе многа і робіць гэта ўмела. З яе рысункамі выдадзена кніжка-размалёўка для дзяцей, выканала яна таксама ілюстрацыі для календара, — патлумачыў гайнаўскі жывапісец і скульптар Марк Сапёлка, які прыйшоў у белмузей з дачкой Кінгай.

— Я ахвотна ездзіла ў Койлы, на бацькаўшчыну майго дзядулі, і паказала на сваёй працы бабулю і дзядулю на фоне вясковага краявіду, з даўняй хатай і яе традыцыйнымі аздабленнямі. Я люблю рысаваць тушшу і ў гэтай тэхніцы выканала конкурсную работу. Беларускі музей выдаў кніжачку-размалёўку з маімі рысункамі. Зрабіла я дванаццаць ілюстрацый для календара «Год у беларускай вёсцы», які падарыла сваім бацькам. На ілюстрацыях паказваю нашу прыроду, працу ў полі ў розныя поры года, святочныя сюжэты, напрыклад Куццю перад Раждаством Хрыстовым. Я вельмі люблю рысаваць дэталі, што відаць на конкурсных працы. На работах выкананых тушшу такія дэталі можна запрэзентаваць вельмі дакладна, — сказала Марыя Ціханюк з Гайнаўкі, якая атрымала

чытайце ☞ 10





# Формула радасці

Размаўляючы днямі з сябрам, амаль выпадкова і амаль адначасна прыйшла нам да галавы формула радасці ў сённяшніх рэаліях Беларусі. Калі чалавек у дадзены момант не ў шпіталі і не ў турме — то ўжо можна цешыцца кожнаму канкрэтнаму дню і такой сітуацыі. На жаль, мы ўсе не цэнім гэтага моманту — цэлы час некуды спяшаемся, нервуемся, наракаем і не разумеем вартасці таго, што маем. Канешне, агульная сітуацыя жорсткіх і маштабных рэпрэсій у дачыненні да суайчыннікаў не даюць адчуваць сябе шчаслівым, але ж, хіба ўпершыню ў нашай гісторыі, на нашай зямлі, тыя, хто змагаюцца ЗА ПРАЎДУ, ЗА СВАЁ, ЗА БЕЛАРУСКАЕ, апынуліся ў большыні. І гэта, канешне, радуе і павінна даваць усім нам новыя сілы, дадаваць аптымізму нават у кароткачасовай гістарычнай перспектыве.

І вось як цікава і часам парадаксальна разгортваецца гісторыя на нашых вачах. Яшчэ на пачатку 2020 года здавалася, што Беларусь застыгла ў вечнай мерзлаце нібы той старажытны мамант ці захрасла ў балоце як безнадзейна састарэлы бегемот. І рэанімаваць гэтага маманта, цягнуць гэтага бегемота з багны — зусім марная справа. Але спярша хваля пандэміі, а потым нябачная дагэтуль грамадская актыўнасць прывялі заіржавелы знешне механізм у магутны рух. Усё захісталася, скаланулася, завіравала, што стала поўнай нечаканасцю як для самаўпэўненай улады, так і для ўсяго свету. І ўжо многім стала зразумела, „хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе".

І не тое, што зараз склалася прынцыпова новая мадэль дзеянняў улад. Мы і раней жылі ў дзяржаве, якая амаль заўсёды была супраць чалавека, якая пераважна забірала і нішчыла дарагія для нас рэчы і з'явы — найперш, канешне ж, нашу беларускую культуру і нашу беларускую мову; у дзяржаве, якая крала ў сваіх грамадзян выбары палітыкаў і ўсялякі іншы выбар, пазбаўляла нас свабоднай будучыні; у дзяржаве, якая карала амаль за кожную публічную праяву нязгоды з дзяржаўным курсам; у дзяржаве, якая цэлы час навязвала ўсім нам чужынскую ідэалогію. Проста ўсё гэта цякло ў такім паўзучым рэжыме, а мы неяк прыстасоўваліся да аўтакратыі, рабілі, што маглі, хоць і цудоўна ўсведамлялі і разумелі, што так „вечна" і нават доўга не можа працягвацца, бо кожны аўтарытарны рэжым непазбежна з часам альбо слабне і эвалюцыйна ці радыкальна трансфармуецца ў дэмакратычны лад, альбо перарастае ў больш жорсткі таталітарызм. Гэта школьная ісціна, што тлумачыцца, як кажуць, на пальцах. Менавіта апошні варыянт і здарыўся ў Беларусі ў жніўні пасля так званых выбараў-вырабаў. Персаналісцкі аўтарытарны рэжым пры чарговай падтрымцы і патранажы Масквы на вачах вельмі хутка пераўтварыўся ў таталітарны. Цяпер нават не абавязкова збірацца на нейкія акцыі пратэсту. Дастаткова выйсці з дому пакурыць, пайсці ў краму па хлеб, ці на прыпынак сустрэць блізкага чалавека з працы ці школы — праз пяць хвілін кожны, хто выйшаў не ў той час і не ў тым месцы — можа патрапіць пад дубінкі карнікаў і апынуцца ў міліцэйскім жалезным аўтазаку, і ў выніку ў нялюдскіх умовах зняволення. Колькасць затрыманняў за гэтыя няпоўныя тры месяцы паводле падлікаў праваабаронцаў перавысіла ўжо 15 тысяч. Насамрэч яна яшчэ большая, бо фізічна немагчыма злічыць усе праявы і факты пераследу мірных грамадзян. Людзі не скарыліся перад брутальнай навалай і працягваюць змаганне за справядлівасць і волю. Улада становіцца ўсё больш агрэсіўнай, адкрыта пагражае народу новымі рэпрэсіямі і нават расстрэламі, а дзяржаўная прапаганда са скуры вылазіць, каб распаліць усё больш нянавісці. І пакуль невядома, чым скончыцца гэтае зацятае супрацьстаянне.

Але галоўнае зараз, што нікому з беларусаў — ні ў самой краіне, ні за яе межамі стала не сорамна звацца Беларусам. Такой актыўнасці, такой салідарнасці нашай нацыі па ўсім свеце, у розных кутках планеты, яшчэ не было ніколі ў гісторыі. І вельмі ў час нехта прапанаваў зрабіць змены ў правапіс — пісаць назву тытульнай нацыі, так як робіць большыня суседзяў — з вялікай літары.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Ура!

Здарылася неверагоднае, вось аплот аўтарытарызму Лукашэнкі — пенсіянеры — паўсталі і пратэставалі на вуліцах Мінска. Яны палічылі, што выбары, у якіх перамог Лукашэнка, — відавочная фальсіфікацыя, а яны самі — абманутыя маразматыкі. Не грэбуючы неабходнай гігіенай падчас пандэміі ковіда, яны неслі расцяжкі з такімі надпісамі: «Беларусь без гвалту», «Пенсіянеры за перамены» альбо «Я не веру Лукашэнку, Беларускаму тэлебачанню і Russia Today, я толькі веру (лаўрэатцы Нобелеўскай прэміі) Святлане Алексіевіч».

Насуперак таму, што прынята думаць пра людзей у пенсійным узросце, што яны без пачуцця гумару, склератычныя і ядавітыя, дэманстранты праявілі юнацкую непасрэднасць і кемлівасць. Іх шэсце аніяк не нагадвала жалюгоднае шэсце зомбі, але яно мела больш юнацкую сілу, чым студэнцкія палітычныя хэпенінгі. Шаноўныя дэманстранты, апранутыя ў бела-чырвоныя касцюмы і вязаныя шапкі ў патрыятычных і апазіцыйных колерах, далучыліся да пратэстуючых студэнтаў, скандуючы ў іх бок: «Бабулі з вамі!» (і дзядулі)» і «Жыве Беларусь!». Пенсіянеры паказалі клас! Дзяржаўныя ахвяраванні, якія ў Беларусі называюць пенсіямі, азначаюць быць альбо не быць для некалькіх мільёнаў чалавек. Праўда, яны больш чым галодныя, але ні адзін пенсіянер не памірае ад голаду. Аднак гэта не дзякуючы дзяржаве, а прадпрымальнасці і разважлівасці, уласцівым беларусам. Да таго ж гэтыя асаблівасці незаменныя ў любым грамадстве, прысабечаным аўтарытарнай, несправядлівай і таму дрэнна кіраванай дзяржавай. Інакш не праіснавала б яна даўжэй, чым жыццё аднаго пакалення. Паўночныя карэйцы тут — надзвычайны прыклад. Дзяржава Кімаў сілкуецца імі, як пышная вечназялёная амяла, якая прымушае гаспадара павольна паміраць. Што ж, Беларусь — гэта не Карэя, і беларусы — гэта не карэйцы. У абодвух гэтых грамадстваў ёсць адно агульнае: яны прысабечаныя аўтарытарнымі дзяржавамі, дакладней элітарнымі групамі, якія ажыццяўляюць у іх уладу і ўзурпуюць свае функцыі. Аднак, хаця гэта крайнія прыклады, у кожным з гэтых выпадкаў гаворка ідзе пра падтрыманне самой улады і перанясенне цяжкасцей яе дарагога ўтрымання на само грамадства. Аднак дзяржава не з'яўляецца ўладай, якая прадстаўляе яе, нават калі яна найменш каштоўная. А ўлада — гэта не дзяржава. Заходнія грамадствы, здаецца, разумеюць гэты фундаментальны супольны прынцып і адпаведнамяняюць разбэшчаную ўладу. На жаль, чым больш разбэшчаная ўлада, тым ахвотней яна разбэшчвае шырокія колы грамадства шляхам прывілеявання адных, менш іншых, і ўсё паводле старога рымскага прынцыпу *divide et impera*. Дзялі і кіруй. Таму пратэст беларускіх пенсіянераў — такая значная падзея. Яны прачнуліся ад доўгага сну і далучыліся да раней абуджанага грамадства. Чым дзяржава Лукашэнкі карумпавала пенсіянераў? Паўнымі пенсіямі, і з гэтым адчуваннем стабільнасці і сацыяльнай бяспекі. Дакладваннем да арэнднай платы, электраэнергіі, камунікацыі і харчовых прадуктаў стратэгічных з сацыяльнага пункту гледжання, такіх як хлеб ці тлушч. Нельга абмінуць і ахову здароўя, фінансаваную дзяржавай, а пенсіянер хутчэй хворы, чым здаровы чалавек. Праблемная якасць універсальнай медыцынскай дапамогі і даступнасць сучасных лекаў у Беларусі не мае значэння. Кожны сам сабе растлумачыць, што ў свеце няма краіны, дзе б сістэма аховы здароўя была дасканалай. Самае галоўнае — гэта намеры. Дзяржава Аляксандра Лукашэнкі робіць усё магчымае, каб зрабіць беларускага пенсіянера шчаслівым. Шматлікія дамы пенсіянераў аздоблены мармурам. Узнагароджвае іх прынагоднымі ордэнамі і медалямі. Адзначае ўрачыстымі вечарынамі дні бабулі і дзядулі. Нічога больш не трэба, як пражыць свае дні, як пончык у масле. З часам выявілася, што ўсяго гэтага недастаткова, каб пенсіянер адчуваў сябе шчаслівым. У любым выпадку, як можа быць шчаслівым той, хто раптам выявіць, што стаў пэўным чынам закладнікам дзяржаўных данін? Прытым зусім не данін дадзеных яму па альтруістычных прычынах. Узамен пенсіянеру заставалася б толькі выказваць некрытычную падзяку. Аляксандр Лукашэнка, безумоўна, разлічваў на яе на мінулых прэзідэнцкіх выбарах. Адно завісцю чаканую падзяку пенсіянераў. Першая ў гісторыі дэманстрацыя пенсіянераў у Беларусі супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў — гэта факт. І гэта, мяркую, не аднаразовы акт іх нязгоды на разбэшчаную ўладу. Ура!

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Як жыць з эпідэміяй?

Мінуў чарговы тыдзень нарастаючай каранавіруснай ліхаманкі. Пра аніякі яе адварот не паведамляюць усеўладныя сродкі масавай інфармацыі. Наадварот, маем дачыненне з сумнымі рэкордамі новых захворванняў у Падляшскім ваяводстве, Польшчы, свеце. З панядзелка, 19 кастрычніка вяртаемся да чарговых абмежаванняў у гэтак званай „чырвонай зоне", якой распараджэнні ўжо ў многім нагадваюць тое ўсё, што было ў пачатку вясны. На мінулыя выходныя прыйшлося мне падарожнічаць рэйсавым аўтобусным транспартам у роднае, пушчанскае наваколле. У пятніцу ў бусе не было аніякіх яшчэ забарон сядзець разам побач сябе, але, вяртаючыся ў нядзелю вечарам, на фатэлях ляжалі ўжо картачкі з надпісам, што могуць на іх сядзець толькі па адной асобе. Гэта быў аўтобусны курс дафінансаваны са сродкаў Маршалкоўскай управы і трэба спадзявацца, што будзе ён нядзельным вечарам надалей спалучаць Гайнаўку з Беластокам. У выпадку прыватных перавозчыкаў у сувязі з дыстанцыйным навучаннем моладзі сярэдніх і вышэйшых школ, а таксама са змяншэннем у такой сітуацыі пасажыраў, можам спадзявацца нерэнтабельнасці спалучэнняў і чарговага закрывання рэйсаў. Асцярожнасць, асцярожнасць, асцярожнасць — заклікаюць нас усе з усіх бакоў. Праблемы, праблемы, праблемы — такая сітуацыя на практыцы абазначае кожнаму з нас. Перажываюць яе ўсе — ад маладога да старога. Кожнаму яна нязручная з уласнага і векавога пункту гледжання. Маштаб грамадскіх і псіхічных разрушэнняў міжчалавечых сувязей зараз і на будучыню здаецца пашырае толькі з'яву адзіноты ў самоце. Слухаючы суботні канцэрт пажаданняў на Радыё Рацыя, у вельмі многіх тэлефанаваннях адчувалася заклапочанасць і няўпэўненасць, што да далейшага жыцця. Жаданні здароўя гучалі зараз з яшчэ зусім новым акцэнтам, а каранавірусу жадалася выходзіць на лес цёмны і ваду. Запаміталіся мне мудрыя словы адной са слухачак, якая падвяла сённяшні час больш-менш такімі словамі: „О, да чаго дайшло, што чалавек баіцца чалавека". Страх, трывога і трапятанне сэрца за сямейнікаў, блізкіх і родных, боязь ці не знойдземся раптам на карантіне і ці не захварэем будучы заінфекаванымі ад тых жа родных... Некаторыя старажылы сцвярджаюць наўпрост: „Нам то хіба будзе капец, калі не дай Божа каранавірус дападзе сямейных. Хто нас накорміць, абмые, завядзе ў туалет. А цяпер напаліць яшчэ ў хаце". Словы трывогі плывуць разам са словамі малітвы да Усявышняга пра ласку для грэшных людзей і спраў. Менавіта ў старэйшых людзей абвостранае пачуццё адказнасці за справы блізкіх, спалучанае з бяссільнасцю ў дачыненні да каранавірусных выклікаў вядзе з упэўненасцю да паніжэння абарончага імунітэту арганізма і росту псіхозных фрустрацый. Неўрозы, бяссоніца, зыход надзеі — тыя прызнакі, што кладуцца цяжкім досведам на душах і сэрцаў нашых бацькоў і дзядоў. Адзіным „дабром" ад пандэміі каранавіруса, лічыць мой тата, ёсць тое, што кожную нядзелю раніцай пачалі трансляваць па тэлебачанні праваслаўныя багаслужбы. Для яго і дзясяткаў тысяч старажылаў старой, вясковай даты магчымасць правесці божую нядзельку з малітвай у храме, адначасова будучы ў роднай хаце, то тая незвычайная, духоўная радасць удзелу ў супольнасці духу малітоўнага дня. У гэты час багаслужба нясецца па ўсёй хаце і ўдзельнічаюць пры поўнай цішыні ўсе бачныя і нябачныя жывотныя дому гэтага. Таксама трансляцыі з розных храмаў божых выконваюць важную пазнавальную місію для кожнага праваслаўнага верніка. Ён, быццам паломнік, наведвае чарговыя мясцовасці і цэрквы, дзе моліцца разам са сваімі братамі і сёстрамі ў веры. Трансляцыя ў апошнюю нядзелю літургіі з Легніцы на ўкраінскалэмкаўскай мове выклікала набалелую тэму і каментарый бацькі: „О, бачыш як воны там у цэркви трымаюцца своєго. А ўнас...". А ў нас маем зусім другі час. Літургію з Легніцы слухаў я таксама з вялікай увагай і духоўнай асалодай ад пабачанага і пачутага. Пра каранавірус і думка нават не з'явілася.

**Яўген ВАПА**

# «Шляхам Тызенгаўза»

## — праект на меру самога Антонія. Як спрацуе на практыцы?

Будынку з першай паловы XIX стагоддзя вярнулі гістарычны выгляд. Завяршыўся рамонт камяніцы Тызенгаўза ў Саколцы — аднаго з найстарэйшых помнікаў архітэктуры ў горадзе. Будынак адрамантавалі ў рамках трансгранічнага праекта „Саколка-Гародня”. І тут, і там ёсць месцы, якія сведчаць аб выдатным земляку — падскарбім надворным літоўскім, гродзенскім старасце, адміністратары каралеўскіх эканомій Антонію Тызенгаўзе. І менавіта вакол яго асобы будуецца аснова праекта.

Камяніца ў Саколцы гэта адзін з нямногіх захаваных да сёння помнікаў матэрыяльнай спадчыны Тызенгаўза. Хаця быў ён вялікім будаўнічым і рэфарматарам, які бачыў патэнцыял менавіта ў гэтых землях, яго дзейнасць завяршылася балючым упадкам. Літоўскі падскрабі ўводзіў наватарскія, як на гэтыя часы, гаспадарчыя інвестыцыі, сцягнуў выдатных спецыялістаў: архітэктара Джузепе Сака (помнік якому можна пабачыць у Гародні на Гарадніцы), нямецкіх работнікаў ці майстра друкарства — рабіна Нахума з Галіччыны. Тызенгаўз будаваў школы, мануфактуры, у якіх выраблялі як карабіны, так і іголкі, ажывіў плаванне на Нёмане, даў Крынкам рынак, а Саколцы — шэраг камяніц. Усё-такі лёс яго інвестыцыі ўпісваецца ў лёс Рэчы Паспалітай другой паловы XVIII стагоддзя — руіну. Верагодна, быў прымушаны ноччу пакінуць сваю сядзібу ў Гародні і ўцякаць у Варшаву, дзе памёр у адзіноце 31 сакавіка 1785 года на 52 годзе жыцця. Да таго часу цярпеў, гледзячы як яго фабрыкі і інвестыцыі перадаваліся іншым або былі ліквідаваны і ўсё, што ён стварыў з такой самааддачай, ператваралася ў прах. Сёння, пасля амаль трох стагоддзяў з часу яго нараджэння, Саколка і Гародня вяртаюць гісторыю і постаць выдатнага земляка.



### Камяніца Тызенгаўза — сведка дзейнасці гродзенскага рэфарматара

У рамках трансгранічнага супрацоўніцтва гарады атрымалі з Еўрасаюза на рэалізацыю праекта „Шляхам Тызенгаўза” амаль 9 мільёнаў злотых. За кошт гэтых сродкаў ужо рэканструявалі гістарычны будынак — у Саколцы (вул. Пілсудскага, 1), а таксама аднаўляецца камяніца ў Гародні (пл. Тызенгаўза, 2) — будынкі будуць пераабсталяваны пад культурныя, адукацыйныя і турыстычныя мэты.

— Дакладная дата будаўніцтва, праекціроўшчык і будаўнік невядомыя, — сказала для сайта „Wrota Podlasia” падляшская захавальнік помнікаў даўніны праф. Малгажата Дайновіч. — Аднак вядома, што будынак з’яўляецца адным з найстарэйшых у горадзе. Ён знаходзіўся пад аховай з 2010 года. На працягу некалькіх гадоў рамонту было арганізавана шэсць рэстаўратарскіх камісій. Увагу прыцягваюць інтэр’ер камяніцы і асабліва арыгінальная лесвіца з захаванай балюстрадай.

Падрапаныя сцены, фарба, якая адпадала пластамі — менавіта так да нядаўна выглядала старадаўняя камяніца па вуліцы Пілсудскага, 1 у Саколцы. Жыцця і колераў таму будынку дадавалі дробныя прадаўшчыкі, якія штодзень ля брамы прадаюць вырошчаную на сваіх градках агародніну ці вясковыя яйкі.

— Рамонту камяніцы мы чакалі шмат гадоў, — сказала бургамістр Саколкі Ева Кулікоўская. — Дамова аб супольным праекце Саколкі і Гародні была падпісана ў палавіне снежня 2016 года. Паўтара года мы чакалі вынікаў конкурсу, у якім, як вядома, Саколка перамагла, атрымліваючы грошы на рамонт камяніц у нас і ў Гародні. У рамках праекта мы таксама стварылі веласіпедны шлях „Саколка-Гародня”. Сёння бачым ужо канкрэтныя эфекты нашай працы — будынак, які мы выратавалі ад знішчэння, прыняў на ўлік падляшскі захавальнік помнікаў.






У адрамантаваных камяніцах плануеццаладжанне міжнародных канферэнцый, майстэрняў, у якіх будуць праходзіць майстар-класы для моладзі і турыстаў. Запланаваны таксама падрыхтоўка і публікацыя турыстычных карт, даведнікаў, ролікаў, якія рэкламуюць патэнцыял і гістарычную спадчыну трансгранічнага рэгіёна.

— Камяніца ў першую чаргу будзе месцам новых культурных ініцыятыў, — тлумачыць бургамістр Саколкі. — Тут плануем перанесці частку Сакольскага асяродка культуры. Таксама хочам, каб змяшчаліся тут ганчарская і ткацкая майстэрні. Напэўна знойдзецца тут таксама месца на дзеянні моладзі і нашых сеніёраў.

### Тызенгаўз, які культурна аб’яднаў Сакольшчыну і Гродзеншчыну

Каб даведацца, як ідуць працы па беларускім баку, 15 кастрычніка дэлегацыя з Польшчы наведала Гародню ў рамках працоўнага візіту. Як аказваецца, у Гародні праект знаходзіцца ў палавіне яго рэалізацыі. Як інфармуе беларускі сайт „Гродно+”, нягледзячы на перашкоды, працы працягваюцца: „У цэлым, праект ужо на паўдарозе: роварная інфраструктура гатовая — зараз паміж двума гарадамі будзе наладжаны і веласіпедны рух. Аднак асноўная праца тычыцца будынкаў, якія праходзяць рамонт. З будаўніцтвам архіва ў Гродне было шмат складанасцей — з улікам гісторыка-культурнага статусу знайсці падрадчыка, які б узяўся за такі далікатны аб’ект, было няпроста. Тады абраны падрадчык не змог справіцца з пастаўленымі задачамі. Сам будынак стварае перашкоды новаму падрадчыку, раскрываючы яго сакрэты ў працэсе працы, з якімі трэба лічыцца”. Усё-такі, як інфармуе сайт „Гродно+”, „абодва бакі задаволены сумеснай працай і ўжо плануюць будучыню”.

У рамках праекта паўстала таксама ўнікальная турыстычная сцежка пад назвай «Сцежка Тызенгаўза» — веласіпедная дарожка паміж Саколкай і Гародняй агульнай працягласцю каля 59 км (26 км — на польскім баку, 33 км — на беларускім). 25 кастрычніка бургамістр Саколкі Ева Кулікоўская запрашала на ўрачыстае адкрыццё „Шляху Тызенгаўза”. Мерапрыемства мела адкрыцца веласіпедным рэйдам з-пад камяніцы Тызенгаўза ў напрамку Кузніцы. Праграма прадугледжвала наведанне касцёла св. Дамініка ў Клімаўцы, агратурыстычных сядзіб ды дэгустацыю татарскіх страў у Багоніках. Усё-такі велапрабег меў бы завяршыцца... у Кузніцы. На жаль, мерапрыемства адмянілі з-за эпідэміі каранавіруса. Усё-такі, як гаворыць бургамістр Саколкі Ева Кулікоўская, пад канец года плануецца ўрачыстае адкрыццё камяніцы Тызенгаўза ў Саколцы, якой ужо зараз можна захапляцца. А паколькі на лаўцы на Гарадніцы сядзіць госць Тызенгаўза — архітэктар Джузепе Сака, з лаўкі ля сакольскага вадасховішча будзе глядзець скульптура самога Антонія Тызенгаўза, які магчыма гэтым разам не будзе расчараваны, гледзячы ў культурнае будучае абодвух гарадоў.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

## Ні аднаго дарожнага ўказальніка

30 верасня гэтага года ехаў я на ровары з Новага Ляўкова ў Новую Луку цераз Новіны Нараўчанскай гміны. Пачаў паездку па ваяводскай дарозе № 687 і, праехаўшы адзін кіламетр, павярнуў з яе на пясчаную дарогу ў напрамку Новін. У гэтую вёсачку крыху далей ёсць і другая дарога ад шашы, гравійка. Ехаў я праз Новіны да асфальтавай павятовай дарогі з Лешукоў у Новую Луку. Яна бяжыць цераз мешаны, але пераважна сасновы лес. Шмат разоў перасякаюць яе іншыя дарогі. Куды яны вядуць? Можа да людского паселішча, а можа на вясковую сенажаць?

Вось дабраўся я да гладкай асфальтавай дарогі. У які бок мне цяпер падацца, каб трапіць у Новую Луку? Каго спытаеш? Тут лес і апрача таго паблізу якраз ніхто не жыве, як кажуць, ні хаты, ні двара. Я, так мовіць, тутэйшы, то з большага ведаю дарогі. Ведаю перш-наперш на ўласны ўжытак.

Падаўся я ў правы бок. Там будзе Новая Лука. Еду паўз прасторныя пакошаныя лугі і зараз дарога ўздыбілася і накіравана на ўзгорак. Мацней націскаю на педалі. А тут і дождж пачынае сыпаць. Да шашы аднекуль узбоч лесу прымыкае ўезджаная гравійка. Куды яна бяжыць, да якой вёскі?

Далей на шляху будуць чарговыя скрыжаванні дарог і ўсе яны без дарожных указальнікаў. У тым то і бяда, што іх няма на шматлікіх скрыжаваннях дарогах. Калі б былі, то ўсе падарожныя без хвалявання ехалі б у Церамкі, Міхнаўку, Старое Ляўкова, Новае Ляўкова, Лешукі, Кардон, Новіны, Тарнаполе або Новую Луку і Слабодку. **(яц)**

## Два бары

У Беластоку шмат бараў. Найбольш іх у цэнтры горада. Раніцай (адкрываюць а гадзіне 8-й) або ў абедні час я заходжу падсілкавацца ў бар „Экспрэс” па вуліцы Складоўскай або ў бар „Сонечны” па вуліцы Сянкевіча. Яны ў зручным месцы. Абодва належаць да прыватных суполак.

Важна аднак тое, што ў іх можна добра з'есці і нядорага. У „Сонечным” прапануюць загадзя гатовыя абеды. Можна таксама ўзяць нешта іншае паводле свайго жадання, напрыклад, яечню, амлет або свежа смажаную рыбу. Можна есці на месцы, або ўзяць з сабой на вынас.

Штодзень у гэтых барах вараць трычатыры розныя супы. Ёсць да выбару розныя стравы. Можна з'есці гуляш з кашай, смажанае або варанае мяса з бульбай варанай у вадзе або печанай са скарынкай, рысам або з кашай і з розным вінегрэтам, катлеты, паштэцікі, налісніκі з сырам або яблыкам (паліваюць іх зверху салодкай смятанай або гарачым шакаладам). Вараць кампот і кісель. Увогуле зараз у барах няма ніводнай стравы з малаком. Можна заказаць каву або чай з лімонам. Ды чаго як чаго але розных ахаладжальных напіткаў тут удоваль. Яснага піва не падаюць. Цёмнае ёсць у бутэльках.

У абодвух беластоцкіх барах вялікія вокны, відно, утульна ды ветлівае абслугоўванне. Стравы падаюць маладыя спрытныя жанчыны ў фірменных уборах. Яны хутка абслугоўваюць. У „Сонечным” бары можна таксама пачытаць свежую газету „Kurier Poranny”.

Вышэйзгаданыя бары не наракаюць на недахоп кліентаў. Найбольш іх бывае ў поўдзень. Заходзяць сюды маладыя і старэйшыя наведвальнікі. **(яц)**




# «Эй мама» ў чырвоных шпільках

**Вось і працуе (ад 2019 года) першая афіцыйная школа родаў у Міхалове! Гэта адзіны цэнтр гэтага тыпу ў 40 кіламетрах ад гміны Міхалова. Уладальніца — Магдалена Юрчук, пад наглядам якой будучыя мамы атрымліваюць неабходныя навыкі ў мацярынстве. Гэта мама Міхася і Аксаны, і ад іх пытанняў «Эй мама» мае назоў гэты Інстытут сям'і. А ў Інстытуце сям'і ў Міхалове ёсць між іншым апарат для абследавання грудзей, новае абсталяванне. Гэта медыцынскі прыбор Braster для агляду малочнай залозы, які дапамагае ў выяўленні раку малочнай залозы. Набыла яго гміна Міхалова, а бургамістр Марк Назарка перадаў яго акушэрцы Магдалене Юрчук. Самакіраванне Міхалова таксама фінансавала бясплатныя даследаванні грудзей для жыхарак гміны.**



— Я марыла пра такую прыладу, — прызнаецца заснавальніца Інстытута сям'і, вядомая акушэрка і спявачка гурта «Чырвоныя шпількі». — Гэта навінка, якая можа ўратаваць здароўе і жыццё нашых жанчын. На Падляшшы ёсць тры такія прылады, і гэта першая ў Польшчы, набытая гмінай. Яна фіксуе цёплыя месцы ў грудзях, скануе і адпраўляе даныя па тэлефоне ў Варшаву, дзе яны ацэньваюцца і вынік атрымліваецца на працягу некалькіх хвілін. Калі ёсць якія-небудзь сумневы, агляд ацэньвае анколаг, і мы атрымліваем паведамленне па электроннай пошце на працягу 24 гадзін. *Braster* — кабінетная тэхніка. Яна не дазволіць вызначыць, ці ёсць захворванне, але можа падказаць аб сумневах для далейшага абследавання. Яго кошт ацэньваецца ў 3,5 тысячы долараў. Магдалена Юрчук даведалася аб прыладзе, калі яна была па рэкламных цэнах, і ўдалося ўтрымаць гэтую цану. У рамках акцыі таксама можна было бясплатна атрымаць 100 тэстаў. Дафінансаванне з Еўрасаюза ўдалося атрымаць праз Групу лакальнага дзеяння „Кнышынская пушча”.

Магдзе хапае ідэй, і Інстытут ужо даўно выйшаў за рамкі школы родаў. Жыхары і жыхаркі ходзяць на заняткі ў школу родаў, прыходзяць на масаж Шанталы, вывучаюцца (маці і таты) насіць немаўлят у хустках. Былі праведзены семінары па аказанні неадкладнай медыцынскай дапамогі, сустрэчы з брафіткаркай (ад станікаў), семінары для маці з дзецьмі ад 6 тыдняў да 3 гадоў і ад 3 да 6 гадоў, аглядаючы ступачкі дзяцей. Магдалена Юрчук поўная ідэй. Некаторыя заняткі платныя, іншыя інфарматыўныя — бясплатныя. Хапае працы, але і цікавасці з боку жыхароў гміны Міхалова.

— Я найбольш рада, калі даведаюся, што дзіця з аўтызмам пасля нашых семінараў з медычным ратаўнікам ратуе... усіх плюшавых мядзведзікаў дома, — смяецца Магдалена Юрчук. Інстытут сям'і і маці Магдалены Юрчук знаходзіцца па вуліцы Сянкевіча, 5, у Міхалове.

Плакаты і брашуры заклікаюць: КУРС ПЕРШАЙ ДАПАМОГІ ДЛЯ МАЛОГА ДЗІЦЯЦІ! Навучыцеся ратаваць уласнае дзіця! Навучыцеся ратаваць жыццё людзей! Навучанне праводзіць дасведчаны фельчар Данель Тымашэвіч!! Мы займаемся на фантомах. Наш курс — гэта не толькі сухая тэорыя ў спалучэнні з дэманстрацыяй. На працягу 2-гадзіннага курса вы даведаецеся, сярод іншага: Як аказаць першую дапамогу: нованароджанаму, немаўляці, малому дзіцяці, даросламу. Што рабіць, калі: хтосьці ўдавіўся, у каго апноэ (бэздэх), атрута, парэз, укус, канвульсіі. Калі выклікаць хуткую дапамогу і калі трэба звярнуцца да ўрача?

Вы будзеце адчуваць сябе больш упэўнена, у бяспецы як бацькі, члены сям'і, людзі. Рэгістрацыя па тэлефоне альбо праз SMS — 691947404.

Запісвае Магда ў сецыве: «Тыдзень прайшоў як шалёны! А я па Вас сумавала -:) Увесь тыдзень заняты новымі ідэямі і рашэннямі :) працавітае вар'яцтва... але яно таго каштавала!

У мяне была цудоўная сустрэча з Іланай і Міхалам сёння. Шчыра кажучы, я крыху хвалявалася, ці змагу з гэтым справіцца. Я ніколі раней не працавала з глухімі людзьмі. Вы былі для мяне мегазадачай! Я вельмі рада, што змагла сустрэцца з вамі. Дзякуй, што выбралі мяне, мяне і маю школу родаў ej mama? Вы аказалі мне вялікі давер». Адказваюць ёй: «Я рада, што мы сустрэліся, і я з нецярпеннем чакаю наступных сустрэч. Вядома, вялікі дзякуй маме Міхася за тое, што яна мяне знайшла і даверыла!»

— Кожны дзень я побач са сваімі пацыентамі. Я слухаю вашы гісторыі, часам надзвычай складаныя. У гэтыя цяжкія хвіліны я стараюся быць такой ціхай апорай, рукой дапамогі... Нават калі адлегласць складае некалькі дзясяткаў кіламетраў. Сучасныя тэхналогіі, інтэрнэт, тэлефон, праца ў інтэрнэце не ведаюць адлегласці і, здаецца, не маюць значэння, калі гаворка ідзе пра добрае супрацоўніцтва. Гэта добра?

Супрацоўнічаюць з „эй мама” розныя спецыялісты. Лакта-акушэрка Эстэра Міхаляк: — Наша цудоўная сустрэча.

Эстэра, самавітая акушэрка, жанчына, маці, і перш за ўсё вулкан энергіі і рэзервуар самавітых ідэй. Калі сёння раніцай яна прапанавала мне супольны *live*, я мушу прызнацца, што я, мякка кажучы, спалохалася... Але з ёй няма чаго баяцца!.. Сёння я ведаю, што гэта быў першы эфір, але напэўна не апошні! Вялікі дзякуй Эстэрцы за ідэю, рэалізацыю і падтрымку! У чарговы раз выпрабавалі сілу і дабрыню жанчыны. І тым больш прыемна, што і яна акушэрка. У нашай прафесіі вельмі важна падтрымліваць адна адну.

Вось і навучанне элементам дзіцячага масажу. Навучанне прызначана для акушэрак, медсясцёр, доулаў, людзей, якія хацелі б штодня працаваць з бацькамі і падтрымліваць іх у такі важны перыяд, як мацярынства. «Будаванне сувязі з дзіцём з дапамогай масажу». Для будучых мам — цяжарнасць і мацярынства — вялікая радасць, але і шмат невядомага, а роды часта выклікаюць паніку і страх.... Зусім непатрэбна -:).

У школе родаў, сярод іншага, будуць вучыцца будучыя бацькі: пра працяг цяжарнасці і родаў, дыета падчас цяжарнасці і груднога гадавання, тэхнікі і методыкі нараджэння, вертыкальныя пазіцыі, зняцце болю падчас родаў, гімнастыку падчас цяжарнасці, як спраўляцца з праблемамі, звязанымі з цяжарнасцю, родамі і клопатам пра дзіця, пра развіццё дзіцяці, пашырэнне дыеты дзіцяці, абыход за нованароджаным і немаўляткам, кармленне грудзьмі, пра прышчэпкі — будуць заняткі з педыятрам, а таксама юрыдычныя кансультацыі па правах цяжарных жанчын, маці, якія выхоўваюць дзяцей самастойна, і бацькоў (працоўнае заканадаўства, падатковае заканадаўства, сямейнае заканадаўства, заканадаўства аб «бэціковым», сацыяльныя правы, правы пацыентаў. Спатрэбяцца гімнастычныя і рэлаксацыйныя заняткі для цяжарных і пасля родаў, каб падрыхтаваць будучых мам да аднаўлення формы пасля родаў. Праграма школы родаў „ej mama” была створана такім чынам, што можаце атрымаць не толькі адказы на самыя важныя пытанні, але і падтрымку, разуменне і, перш за ўсё, рэцэпт, каб гэты час быў для вас самым цікавым.

Як усё пачалося? — Адкуль памятаю, я заўсёды хацела пачаць уласную справу. Усе мае жыццёвыя крокі былі накіраваны на гэтую мэту. Аднак мне ўсё ж не хапала мужнасці... Так, адвагі. У думках я ўжо бачыла, чым хачу займацца, на чым засяродзіцца, ва ўсякім разе, мне ніколі не бракавала ідэй і іх хапае, часам таксама трохі шалёна... Я ставіла заданні і ішла наперад невялікімі крокамі. Я таксама памятаю дзень, з якога гэта пачалося, гэта было 29 студзеня, гэта дзень, калі мне споўнілася 40 гадоў. І, вядома, устала з ложка правай нагой, я падумала: ТАК! ЗАРАЗ МОЙ ЧАС... Калі не зараз, не сёння, то ніколі больш. І я вырашыла стварыць уласную кампанію, свой брэнд. Шмат фармальнасцей, афармленне дакументаў, бізнес-план, субсідыя ад LAG Puszcza Knyszyńska, ксеракапіраванне дазвольных дакументаў. Але вось, жанчына-анёл Яланта Матышак стаяла на маім шляху — яна хросная маці майго трэцяга «дзіцяці» — „эй мама”.

Памяшканне было ў жаласным стане, але тут мой муж і Бартэк Нос, і Янэк Верамюк справіліся з гэтай задачай. Было шмат людзей добрай волі. Сапраўды чароўныя моманты. Праект, які атрымаў фінансаванне, назваўся Інстытут сям'і...

Э — як Яўгенія (Eugenia) — гэта мая маці. Таму што ўсё пачалося з яе (моцная жанчына, якая адначасова і маці, і бацька, такое 2 у 1), Й — як Юрчук — гэта наша празвішча; вельмі важна, каб кампанія мела празвішча, добрае празвішча; М — Магдалена — Мама; А — Адам — Тата; Міхась — сын, А — Аксана — дачка. Вось і сакрэт назвы. І мяне на вуліцы клічуць сябры і знаёмыя — Эй, мама!.. Вось і брэнд. Цікава? Пішыце мне на magdajurczuk@wp.pl, асабістыя паведамленні ў FB альбо тэлефануйце 691-94-74-04. Не саромейцеся! І запрашаем на нашы — «Чырвоных шпілек» — выступленні на беларускіх фэстах. Не прапускаем ні аднаго мерапрыемства, цешымся і мы беларускай песняй, а запрашаюць нас не толькі да нас.

Энергетычна, жыццярадасна, з любоўю, у чырвоных шпільках!

**Міра ЛУКША**

# Самая вядомая маці на Падляшшы

Інтэрв'ю з **Антанінай Трафімюк** — матуляй Славаміра Трафімюка, лідара гурта «Ас», аўтара слоў і музыкі „Песні пра маму", якой у гэтым годзе спаўняецца 25 гадоў.

**Юрка Буйнюк: — Вы — мама Славаміра Трафімюка з калектыву «Ас»?**

**Антаніна Трафімюк:** — Так, гэта я. Ён заўсёды прыязджае да мяне на вёску і мною найлепш апякуецца. І, сапраўды, ён вельмі добры сын, многа мне дапамагае. Ён са сваім сынам зрабіў мне цяпліцу, у якой вырошчваю памідоры.

**— Дык Вы — самая слаўная мама на Падляшшы! Як успамінаеце свайго сына, калі быў маленькім, калі пачынаў іграць?**

— Калі Славік пачаў іграць, дык я кажу яму: «Паедзьма на рынак і я куплю табе гармонік». Упершыню купілі рускі гузіковы акардэон, таму што на рынку не было клавішных акардэонаў. Калі навучыўся іграць, хацеў яшчэ лепшы гармонік. Тады мой муж Коля паехаў у краму і купіў яму добры гармонік, «Дэліцыю». А потым наш сын навучыўся і вельмі добра яму ішло. Трэці быў акардэон «Вельтмайстар».

**— Адкуль у Вашай сям'і зацікаўленне музыкай? Ці хтосьці спяваў, іграў?**

Я нарадзілася ў 1937 годзе ў Пухлах. Мой бацька Феадосій Грыгарук прыслугоўваў і быў сторажам у царкве ў Пухлах. Я ад малой любіла хадзіць у царкву і спяваць на клірасе. Адзін дваюрадны брат, што вучыўся ў Варшаве, іграў на скрыпцы. У 1959 годзе я выйшла замуж за аднагодка Мікалая Трафімюка са Стральцоў. Гаспадарылі мы на сямі гектарах, працавалі яшчэ ў краме. Рознае было ў жыцці. А першым пачаў у нас іграць на гітары мой сын Жэнік, старэйшы за Славіка на адзінаццаць гадоў і менавіта ён зацікавіў яго музыкай.

**— Так, Славамір гаварыў мне, што Жэнік вучыў яго іграць на гітары...**

— Вучыў, але Жэнік вучыўся ў Варшаве ва ўніверсітэце і дзейнічаў у Беларускім аб'яднанні студэнтаў. Ён чатыры гады вучыўся і на апошні год не далі яму стыпендыі.

**— Славамір запісаў шмат касет і альбомаў...**

— Славік мае запісаных дзесяць касет з песнямі свайго гурта. Ён усе свае касеты і кампакт-дыскі трымае на паліцы. Як мае адну лішнюю касету, дык прывязе мяне і аддасць. „Песню пра маму" ўжо не пускаюць на Радыё Рацыя, але ўвесь час яе спяваюць з Юркам Юраўцом. Ён нябрыдка спявае. У гэтай песні ёсць чыстая праўда пра мяне як маці. Славік заўсёды любіў свойскі хлеб і малако проста ад каровы. Бывае, бярэ булку хлеба з хаты і вязе ў Беласток.

**— Што Вы адчувалі, калі ў тэлебачанні бачылі свайго сына?**

— Я вельмі цешылася. А ў гэтым годзе, як была «Прымацкая бяседа» ў Міхалове, дык я ўключыла радыёпрыёмнік і чула як мой сын спявае ўжывую з Міхалова. Дапамагаюць яму спяваць і іграць Юрка Юравец і Мірак Цясноўскі. Дарэчы, у хлопцаў вельмі прыгожыя галасы. І Юркаў сын, Рафал Юравец, таксама спявае.

**— Вы былі на фэсце ў Рыбалах, дзе Ваш сын выступаў з гуртом «Ас»?**

— Так, я была ў Рыбалах, мяне прывезлі на фэст. Файна там было, цыганкі са Звяркоў, і прыгожа там танцавалі. У Рыбалах людзі нас вельмі цанілі дык шанавалі.

**— Вы з мужам мелі краму ў Рыбалах?**

— Так, я адзінаццаць гадоў у краме ў Рыбалах стаяла. Кожную раніцу трэба было даязджаць са Стральцоў. Прадавалі ўсё патрэбнае для сельскай гаспадаркі. Сетку, дрот, парнікі прадавалі. Раз увечары, калі я ўжо рашчыніла хлеб, прывезлі ў магазін дрот. Я тады прашу суседку, каб спякла мне хлеб, бо мне трэба ехаць у краму прыняць дрот. У тым часе так атрымалася, што муж афармляў справы і нанач не вярнуўся дахаты. Тады суседка напякла мне хлеба. Апрача таго мы ў хаце мелі яшчэ прадуктовую краму. Мы яе закрылі дваццаць гадоў таму назад. У нашу краму прыязджала многа людзей з навакольных вёсак.





Славамір з мамай, 1978 год

**— Вашага мужа ўжо няма 16 гадоў...**

— Ён памёр у 2004 годзе. Раней, у 1987 годзе, у 50-гадовым узросце ён перанёс інфаркт. Я вельмі моцна перажыла ягоную смерць. Я стала адзінокай жанчынаю.

**— У гэтым годзе Вы адзначалі 18 год з дня нараджэння ўнука Якава...**

— Я была на дзень яго нараджэння. Хаця не дам рады, дык нават крыху танцавала. Было разам пад сорак гасцей. Была сям'я з нашага боку і з боку маёй нявесткі. Таксама былі сябры па працы майго сына. Добра, што я дачакала дня нараджэння, бо толькі адзін Бог ведае, колькі я яшчэ пажыву. Музыкант Мірак павіншаваў мяне, што я вельмі добра выхавала сваіх сыноў. Славік вельмі высокі а яго сын яшчэ вышэйшы за свайго бацьку! Славік падключыў свой гармонік дык пачалі іграць.

**— Але і ваш унук Якаў таксама вучыцца іграць...**

— Славік купіў яму клавішы. Ён вучыцца іграць таксама на гармоніку.

**— Што Вы хацелі б сказаць пра сваіх унукаў?**

— У мяне чацвёра ўнукаў. Найстарэйшыя — сын Яўгена, Адрыян, і дачка Ася. Пасля ў 1998 годзе нарадзілася дачка Славіка — Оля. А наймалодшы, таксама Славікаў, Якаў, якому ў гэтым годзе споўнілася 18 гадоў. Я вельмі цешуся, калі прыязджае Якаў. Ён косіць на панадворку траву за што я яму вельмі ўдзячная. Я хачу каб яны ўсе жылі здаровыя і памяталі аба мяне. Мая ўнучка Оля вельмі файная.

**— Бачу ў вашай хаце многа ікон...**

— Я іх прывезла з царквы ў Пухлах і там бацюшка іх пасвяціў. Я ўвесь час хаджу ў царкву. А вось гэтай ікone амаль 60 гадоў. Яе купіла мая цешча. Я з кухні прынесла яе ў хату, зрабіла новыя рамкі. Мой муж Коля яе пачысціў і зараз лампадка ўвесь час гарыць перад іконаю і ўдзень, і ўночы.

**— Я вельмі дзякую за інтэрв'ю. Вы вельмі шчырая і добрая жанчына.**

— Я вам таксама вельмі дзякую. Як хтосьці прыйдзе да мяне, дык я стараюся як найлепш абысціся з чалавекам.

Размаўляў
**Юрка БУЙНЮК**

## Заблудаўская дэмаграфія

Зараз у Заблудаўскай гміне пражывае 9245 чалавек ды найбольш у горадзе Заблудаве — 2414 асоб. Гміна займае плошчу ў 340 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насялення — 27 чалавек на адзін квадратны кіламетр.

Найбольшыя вёскі ў гміне: Дабжынёўка — 690 жыхароў, Кур'яны — 643, Рафалоўка — 498, Рыбалы і СКР Рыбалы — 390, Галіцкія — 297, Зверкі — 270, Пратасы — 238, Крыніцкія — 232, Заблудаў-Каленія — 204, Скрыбічы — 202, Лубнікі — 194, Загрушаны — 165, Фальваркі-Малыя — 164, Камёнка — 161, Паўлы — 153, Фальваркі-Тыльвіцкія — 149, Беласточак — 137, Фальваркі-Вялікія і Рэпнікі — па 128, Кудрычы — 117, Кухароўка — 105, Навасады — 99, Пасынкі — 96, Козлікі — 92, Кавалёўцы — 88, Целушкі і Плоскія — па 79, Жукі — 75, Баброва — 69 і Астраўкі — 66.

Да сярэдніх вёсак належаць Гнецюкі — тут пражываюць 63 чалавекі, Давідавічы — 61, Заязерцы і Сольнікі — па 55, Малынка — 54, Ахрымовічы — 45, Зацішша — 43, Альшанка — 42, Канюкі і Татараўцы — па 40, Сеські — 39, Ляшкі — 36, Алексічы — 35, Краснае — 32, Каўпакі — 30 і Жыўкова — 29. Малыя пасяленні ў гміне гэта Міневічы — 15 жыхароў, Сламянка — 13 і Лук'яны — 10.

На працягу апошніх гадоў лік жыхароў у Заблудаўскай гміне пабольшаў: у Зверках і Красным — па 20, Кур'янах — 17, Пратасах на 11, Камёнцы і Татараўцах па 10, Кавалёўцах — на 9, Заблудаве, Заязерцах і Козліках — па 6, Навасадах, Пасынках і Рыбалах — па 5. Паменшала жыхароў у Рафалоўцы — на 10, Кудрычах — на 6, Паўлах — на 5, Крыніцкіх і Скрыбічах — па 4. **(яц)**

## Небяспечная дарога

Небяспечна ехаць павятовай дарогай у другой частцы вёскі Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Гэтая асфальтавая артэрыя бяжыць паралельна да чыгункі (з Гайнаўкі ў Семяноўку) ад скрыжавання ваяводскай дарогі № 687 з павятовай да гравійкі, якая вядзе да трэцяй часткі сяла Плянта. Паабапал яе растуць высокія ліставыя і хваёвыя дрэвы. Ёсць таксама сухая бяроза і сухія елкі (знішчыў іх караед), з якіх вецер страсае мёртвыя галіны на дарогу.

Маставая павятовай дарогі рэдка калі бывае сухая. Яна патанае ў цяні дрэў. Сонца не прабіваецца цераз навіслыя над дарогай галіны дрэў. Слабой якасці і да таго яшчэ мокры асфальт хутка рыхлее і робяцца ямкі. Зараз мокрая восень, ва ўхабінах маставой стаіць вада і не відаць на колькі глыбокія тут лужы. А гэта небяспечна. У гэтым месцы папераджальных дарожных знакаў няма. А шкада. **(яц)**

## У нас збіраюць апенькі, кані і зялёнкі

На двары сярэдзіна восені і ў лесе растуць асеннія грыбы. Ад часу да часу падае спакойны і невялікі дождж , які якраз адпавядае ўсім грыбам. Не было пакуль што прымаразкаў. І грыбы растуць. Лес запрашае.

У канцы тыдня, у суботу, 17 кастрычніка гэтага года шмат грыбнікоў можна было сустрэць у лясах Нараўчанскай гміны. Збіралі яны апенькі, кані ды гэтак званыя валовыя языкі і падгрыбкі. У кошыкі трапілі таксама рыжыкі, плiскі і зялёнкі, але было іх мала. У пачатку кастрычніка г.г. мой брат Кастусь у лесе каля Лазовага (гэта прысёлак Новага Ляўкова) назбіраў тры кілаграмы плісак. Тады былі цяплейшыя дні і ночы. Грыбнікі не знайшлі, што дзіўна, падзялёнак, але яны, мабыць, яшчэ будуць. Яны паяўляюцца своечасова тады як і зялёнкі. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Я нарадзілася тут!

Калі глянеш на малюнак Насткі, спачатку падумаеш пра казку. Глядзіш і думаеш пра бабулю, якая чулліва пасвіць лася. Звярок як хатняя жывёла, даверлівы і паслухмяны. Але ж — не! Той кіёк у руках старэчы гэта не пуга і не дубіна, а проста кульбака, апірышча. Няма тут драбінкі агрэсіі ці залежнасці, кожны тут заняты сваёй справай. Іх свет атуляюць будоўлі, дрэва з буслянкай, плот. У сярэдзіне «агароджы» царкоўка з купаламі, якая прыгожа ўзвышае герояў малюнка. Усе героі карціны маюць сваіх рэальных адпаведнікаў. Вось тая жанчына з кульбакай — любімая бабуля Клаўдзія, той лось, звярок якога Настка часта бачыць едучы ў школу, тая царква з Самагруда, яна стаіць кіламетр ад хаты Насткі.

— Гэты малюнак паўстаў вясной, таму няма на ім яшчэ каня і сучкі, якія ў верасні папоўнілі наш панадворак, — паясняе мама Насткі.

Дзяўчынка — вучаніца Пачатковай школы ў Шудзялаве. Яна і сястра Лідка ды іх дваюрадная сястра Ніна вельмі любяць маляваць. І вось на адным уроку беларускай мовы настаўніца Тацяна Андрацкая расказала дзецям пра конкурс «Я нарадзіўся тут», арганізаваны Беларускім музеем у Гайнаўцы. Такой нагоды Настка Онішк не магла прапусціць. Да конкурсу «захвочвалі» і ласі, якія выбягалі на дарогу, калі яна раніцай ехала ў школу. І буслы, якія вярнуліся з выраю на іх двор і абвясцілі клёкатам вясну. Яны дапамаглі вычараваць настрой цеплыні і бяспечнасці на паперы.

Мінулы навучальны год быў іншы як усе папярэднія. Па прычыне пандэміі рашэнне конкурсу працягнулася, а падвядзенне вынікаў адбылося нядаўна, 7 кастрычніка г.г. у Гайнаўцы. Поспех нашых герояў адлюстраваўся на здымку, які зрабіла арганізатарка конкурсу Агнешка Ціханюк. На ім казачны малюнак і радаснае хваляванне ў вачах нашых гераінь, Насткі і яе мамы Анэты Прымакі-Онішк, вядомай пісьменніцы.

**Зорка**

## Адкуль беларуская гасціннасць? (беларуская легенда)

Калі пачаўся свет, людзі жылі ў хатах без вокнаў, як тыя звяры ў норках. Яны рабілі ўсякія фокусы, каб асвятліць жытло, вось цэлы дзень лавілі ў мяшок або рэшата прамяні сонца і прыносілі іх у хату, ды ўсё дарэмна. Да той пары, аж прыйшоў вандроўнік у вёску.

— А што вы робіце? — здзівіўся ён.

Расказалі пра бяду людзі, што ніяк святла ў рэшаце і мяшку яны прынесці ў хату не могуць.

— А як заплаціце мне за параду? — спытаў ён.

— Заплацім як трэба, як сам захочаш, — адказалі людзі, — толькі ратуй, выцягні нас з тае цемры...

Людзі не ведалі што пад выглядам вандроўніка да іх завітаў сам Бог.

Ён падумаў і сказаў:

— Я хачу, каб вы далі слова, што пакорміце і заначуеце стомленых людзей, якія завітаюць да вас проста з дарогі.

— Гэта здорава, — пагадзіліся людзі, — мы згодны приступіць на такое.

Тады Бог дабыў з кішэні кордзік і выразаў у сцяне аконцы. Людзі не маглі паверыць, што адным махам ён асвятліў іх змрочнае жытло.

З той пары беларусы надта ветліва абыходзяцца з незнаёмымі, ды нават запрашаюць іх на начлег у сваю хату.

*(на аснове легенды, запісанай Міхалам Федароўскім у вёсцы Дварчаны на Гродзеншчыне)*

гак

УВАГА КОНКУРС!
№ 43-20

Якi год цягнецца адзін дзень?

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 8 лістапада 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 39: мышка. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Адам Максімюк і Соня Грушэўская. Віншуем!

Міра ЛУКША

## Ната і мята

Наламала мяты
у агародзе Ната.
Насушыла наткі –
і будзе гарбатка.
А пару галлёчак
уставіла ў збаночак.
І на падаконні
быццам на загоне
мята зеляніцца,
чысту п'е вадзіцу.
Заквітнела мята,
хоць не тая дата,
а пылок сабрала
пчолка запаздалая.
– І не вяне мята! –
усё дзівіцца Ната.
А ў збанку – карэнне,
мо восем, не меней!
«Садзі мяне, Ната! –
кліча Нату мята. –
У скрынку на ганку,
хоць холадна ранкам.
А пасля дахаты
нясі мяне, Ната».
А потым нанова
у пару вясновую
пасадзіш на градку
сваю мятку, Натка.

# Міфы старажытных беларусаў

**ЛІПА** — прыгожае і духмянае ў час квітнення дрэва, явілася для нашых продкаў сімвалам дабрабыту, жаноцкасці, мяккасці і падатлівасці. Яно карысталася вялікай пашанай і часта расло побач хаты. Адзін са старажытных міфаў апавядае, што людзі паходзяць менавіта ад ліпы. Рэлікт павер'яў захаваўся ў казках, дзе бяздзетныя бацькі вычэсваюць з ліпавага палена цурбачок, кладуць яго ў калыску і гушкаюць як дзіця. З гэтага куска дрэва вырастае пасля дзевяці месяцаў дзіця, якое ў казках і называюць Пілiпка-м (!). Такі чалавек быў надзелены незвычайнай сілай і розумам, ён разумеў мову птушак і раслін. Надзелены сілай прыроды чалавек «з ліпы» змагаўся за бяспеку і справядлівасць грамады.

У старажытныя часы нашы продкі прыносілі ліпе ахвяраванні пад выявай ручнікоў і хлеба. А паколькі дрэва валодала высокімі гаючымі якасцямі, людзі скарыстоўвалі ў народнай медыцыне старыя дрэвы з вялікімі адтулінамі. Хворых людзей перацягвалі праз тыя адтуліны, каб слабы чалавек акрыяў з дапамогай сіл прыроды. Яшчэ адносна нядаўна ў нашым падляшскім краявідзе часта сустракаліся дрэвы абвешаныя рознымі шматкамі. Хворыя людзі не толькі пралазілі праз адтуліну ў ліпе, але і пакідалі старое адзенне пад дрэвам альбо на яго галінках. А паколькі вопратка была дэфіцытным таварам, часам адрывалі толькі фрагменты адзення, якія дакраналіся да хворага месца. Магчыма, рэліктам гэтага аздараўляльнага павер'я застаўся звычай пакідаць латкі пры святых крыніцах, вадой якіх раней былі абмыты хворыя месцы. Латкі і старое адзенне нельга было падымаць, іначай, верылі людзі, можна прышчапіць сабе смяротную хваробу.

Ліпы ад заўсёды лічылі святымі дрэвамі, менавіта імі абсаджвалі цэрквы і касцёлы, каб яны ахоўвалі святыя месцы. На Мазурах вядомае з-за цудоўных аздараўленняў урочышча Святая Ліпка. Там касцёл, дзе вернікі ўзносяць малітвы за духовыя і цялесныя аздараўленні.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**



**Дзяўчаткі з беластоцкай «чацвёркі» спяваюць пра жывінак**
(фота ГК)

# Печаная бульба з тымянам — смакоцце і вітамін.

Сярод культавых рэцэптаў Руды Басера, аўтара кулінарнага даведніка для гурманаў і агароднікаў «Зёлкавае шчасце», мы знайшлі бульбу з тымянам. Да стравы найлепш падыходзяць сушаныя галоўкі тымяну (macierzanka), сабраныя летам і засушаныя разам з галінкамі. У іх захаваны ашаламляльны пах мёду і ліпеньскага сонца. Вядома, тымян можна набыць у любым магазіне як прыправу, але тады ён мае больш горкі і зёлкавы прысмак. Ад старажытных часоў гэтую расліну лічылі ідэальным лекам ад прастуды, а ў Англіі верылі што тымян дадае адвагі і прымянялі яго як лек ад нясмеласці і сарамлівасці. Навуковыя доследы пацвердзілі асаблівыя якасці тымяну — гэта натуральны антыбіётык, які моцна ўздзейнічае на бацылы і выдатна аблягчае кашаль і клопаты з дыханнем.

Прапанаваная страва выдатна падмацуе імунітэт (układ odpornościowy) і дадасць нам сілы і адвагі перанесці няпросты час эпідэміі.

**Складнікі:**

500 грам бульбы,
некалькі скрылікаў бачку або сала,
1 цыбуля,
4 лыжкі алівы з аліў,
1 чубатая лыжка тымяну,
1 зубок часнаку,
соль і чорны перац.

Пачысціце бульбу, але пакіньце лупіны. Парэжце ў круглячкі, нашмаруйце алівай і змяшайце з тымянам, соллю і чорным перцам. Дадайце нарэзаную цыбулю, выцісныты часнок і бачок. Усё пакласці ў бляшку і пячы 20 хвілін у тэмпературы 220°C.

Страву найлепш падаць з кіслай капустай, прыпраўленай цыбуляй, журавінай і алівай.

**(гак)**



## Польска-беларуская крыжаванка № 43-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 39-20:**

Расказчык, агул, бона, брава, ёд, каса, клад, салют, дама, меч, салат, душ, карал, корч, мыза. Бабёр, год, до, рун, Амур, Ала, клешч, ключ, брат, абад, Ас, дары, вадалаз, мала, шмат.

Узнагароду, **беларускія літаркі на каляровыя алоўкі**, выйграла **Паўля Крышпінюк**. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Sto / Kowal | Marzenie | Rubryka / Kula | | Płuco | | Hit |
| | Stan | Pień drzewa | | Szalik | | | | | |
| | Samolot | | | | | | | | |
| | Twaróg / Tkacz | | | | | | | Anioł | Strefa |
| Twarz | | | | | Zdanie | | | | |
| Koło | | | | | Kino | | | | |
| | | | | Bierz | | | On | | |
| Bal | | | Bierz | | | Ala | | | |

# Працаваць на саветаў

(ч. 15)

У некаторых катэгорыях савецкай рэчаіснасці не ўсё выглядала аднай цемрай і маразмам; штосьці там рабілася к лепшаму і нельга ўсё звіваць у адзін клубок. Недзе арганізаваліся і курсы трактарыстаў, і адзін з іх вучань (але не ад нас) Іван Корх з Кархоў такія курсы паспяхова закончыў (але дзе, не ведаю) і нават араў поле ў бліжэйшых вёсках. Але на гэту работу ў той час нашы людзі крыва глядзелі. А сам трактарыст Іван Корх ніякага дакумента не атрымаў наконт звання трактарыста. Гэта было запісана толькі ў савецкіх «бумагах».

Таксама ў суседняй вёсцы Рутка адзін яе жыхар Фёдар Леўчук таксама араў савецкім трактарам на цяжкай там зямлі і машына не давала рады цягнуць плуг па такой гліне. Бліжэйшыя ўлады мелі свайго слаўнага «Сталінца» на гусеніцах. Вайна перашкодзіла гэтаму, а той меншы трактар, яшчэ ў добрым стане, рутчане разабралі на прылады да сваіх плугоў, барон... Нашы людзі вельмі любілі савецкія песенькі і частушкі, і многія з іх нават вывучылі іх на памяць і спявалі. І наш геройскі Іван Тапор з Тафілаўцаў, вывучыў як малітву савецкую песеньку, якая распачынаецца са слоў «захотелось буржуям напиться пролетарской рабочей крови... і ён яе спяваў усюды, не зважаючы на нішто і нават пры нямецкай акупацыі яе спяваў. Мо нават і немцы яе чулі, а яны таксама любілі савецкія напевы. А людзі чулі, як бы з паветра ад захаду нейкі дух, што на свеце справы выглядаюць няладна, яшчэ горш, як перад верасnёвай катастрофай 1939 года. Чулі, што вайны не мінаваць, хаця актывісты, і то ярыя, і то нашы, былі ўпэўнены на ўсе сто адсоткаў, што савецкая ўлада будзе ў нас панаваць вечна і «прылагалі найбольшыя усілія», каб яе ўзмацняць і то ў розных формах, высяляючы на белыя мядзведзі няпэўны кулацка-царкоўны элемент. У нас пакуль было ціха, але да часу...

Але тут з вясны ізноў прыйшло новае ліхалецце да нас. Гэта быў ужо 1941 год і загад: некаторых нашых жыхароў (і не толькі ў нас) і то пераважна жанатых адставіць на службу як рабочы батальён на будову абаронных бункераў над самай ракой Буг — на савецка-нямецкую мяжу. Да гэтага «войска», дзе карабінам была толькі лапата і непасільная работа трапіў мой бацька і мае дзядзькі, жыхар вёскі Фёдар Млодзян. Гэта была нядрэнная «ўзнагарода», а тым больш, што распачыналіся веснавыя палявыя работы. На скаргі-жальбы жонак, нашых мацярок нейкі брудны смярдзючы палітрук з насмешкай адказаў: «Да мы вам дадим своих «рабочих» только в постель наших чистых и честных женщин», але ён відаць не ведаў, што нашы ўсе жанчыны-беларускі маюць свой гонар, кахаюць сваіх мужоў, дзяцей, а на іх азіяцкую дзіч нават не хочуць глядзець і сваім задам. І так мой бацька апынуўся як «салдат» з лапатай над Бугам перад самым носам немцаў, якія былі на другім беразе ракі. А тут дзясяткі тысяч людзей працавалі ўдзень і ўначы, і лічыць упрогаладзь Шмат было і нашых людзей «навабранцаў» з розных вёсак. А з васточнікаў гэта былі пераважна тыя з вузкімі і касымі вачыма. Але афіцэрня, гэта пераважна рускія і ўкраінцы, і яны, як нармальнае войска і строга пільнавалі сваіх парабкаў — «салдат» з лапатай. А забыў сказаць, што нашых сялян-навабранцаў з лапатай узялі на службу і працу «толькі» на два тыдні, а пасля гэтага мелі адпусціць дамоў. Аднак гэта была хлусня і савецкі абман. Працавалі як катаржнікі аж да



самага выбуху вайны, а пасля па розных сцяжынках няведамага лёсу кожны спяшаў дамоў. Але гэта будзе пасля і не так скора.

А там над Бугам строіліся-будаваліся ўзмацненні так званыя «укрепления» і колькі там дабра (цэменту, сталі, камення...) пайшло ў балота. І дзіўна, які гэта дурань у саветах прыдумаў гэтыя точкі-бункеры? І некаторыя там жыхары навакольных вёсак і то сярод палякаў выкарысталі гэты дзіўны час; бо за некалькі бутэлек маглі ад некаторых савецкіх афіцэраў дастаць цэлыя тоны цэменту, сталі і пабудаваць сабе прыгожыя дамы. І яны мо і сёння стаяць. Тыя афіцэры добра ведалі, што бункеры нават наймацнейшыя не стрымаюць штурму нямецка-фашысцкай атакі і яны цалкам не будуць прыдатныя. І таму папросту кралі, як маглі. Калісьці ў «Ніве» пачэсны і здольны журналіст Віктар Рудчык багата пісаў пра гэтыя пункты і мой бацька чытаў яго тэксты. Аднойчы ўзяў пяро і напісаў свой багаты допісматэрыял у «Ніву» наконт гэтых точак і сваіх там перажыванняў і ўспамінаў, бо сам жа там быў, як жывы сведка гісторыі. Ясна, бацька пісаў пазітыўна (бо інакш тады нельга было пісаць, хаця нейкія намёкі праўды былі дапушчаны ўжо) і артыкул бацькі быў надрукаваны ў «Ніве» (вядома, быў апрацаваны Віктарам Рудчыкам) і меў загаловак «І я там быў». І толькі мой бацька напісаў гісторыю, як жывы сведка гэтых падзей над Бугам з нашай ваколіцы таго часу. І там бацька яскрава ўбачыў савецкі лад і рэчаіснасць і заўсёды, як добра памятаю, называў іх ілгунамі і абманшчыкамі, але таксама дзіўна, ніколі не адрокся свайго любімага камунізму. Відаць, гэта зародыш і гены цесна ўбітыя ў галовы Панфілюкоў. А там працавалі грузавікі. Дзіўныя гэта былі машыны, бо замест бензіну палівам былі кубікі з дрэва дуба і хіба граба, уложаныя з адной стараны ў памяшчэнні побач рухавіка. Падчас згарання выдзяляўся асобы газ, які пускаў у рух і працу рухавік гэтай складанай машыны, звалася яна газагенератарам. Тады такія машыны былі ў модзе і нават немцы нейкі час імі карысталіся.

Кармілі салдат сушанай і вельмі салонай рыбай, а хлеб быў чорны як сажа і нясмачны; пяклі яго ў пякарні ў Сямятычах, а мо ў іншым гарадку. Бацька калісьці дакладна казаў дзе, але я ўжо забыўся. Нашы навабранцы вялікага голаду не мелі, жонкі іх (нашы маткі, як мая) дастаўлялі ім свой хлеб, саланіну, а то і каўбасу, ехалі туды на сваіх фурманках. Васточнікі на гэтыя ласункі глядзелі з дзівам і прагнасцю, бо такой ежы яны даўно ад дзясяткаў гадоў не бачылі. І нашы людзі з імі дзяліліся гэтым Божым дарам, а салёнай рыбай раскідаліся навокал, а тыя салдаты недзе з Сярэдняй Азіі ўсё гэта з'ядалі. Аднойчы да нашых людзей падчас адпачынку падышоў нейкі савецкі афіцэр і давай гаварыць з імі. Запытаўся: як там у вас, у панскай Польшчы — паны вас запрагалі ў плуг і вамі аралі палеткі і як вы ж маглі гэта цярпець? Нашы людзі, у тым ліку мой бацька кажуць: гэта ўсё няпраўда, а толькі недарэчная крытыка, бо кожны з нас, сялян, меў свайго коніка, а то і больш, і толькі імі аралі. І тады кажуць афіцэру: дык і ў нашых польскіх газетах была крытыка, што ў 1937-1939 гадах быў у вас вялікі голад, што людзі на Украіне і то далей паз'ядалі ўсіх пацукоў, мышэй, катоў, сабак і нават самі сябе з'ядалі; дык гэта толькі крытыка была і няпраўда, — сказалі нашы людзі. А афіцэр, пільна зірнуўшы навокал, ціха адказаў: «Нет, это не критика, а правда., так было у нас действительно». І хутка адышоў і ніхто больш яго не ўбачыў.

Праз нейкі час наведаў іх іншы афіцэр і пачаў гаворку: «Мой отец был безграмотный, но имел 30 десятин земли, держал десять штук лошадей, пятнадцать коров, много овец, курей и был безграмотный. А вот я, сын его, уже грамотный и окончил десять классов средней школы; почти ничего не имею. Моё богатство это лишь крохотная избушка-квартира в городе и только один стол и стул в ней и это всё». Сказаў гэта і таксама скора скрыўся.

Тады нашы людзі на цвяроза штосьці больш маглі даведацца аб райскім жыцці ў СССР. А тут прайшлі гэтыя два тыдні іх прабывання пры ўзмацненні краіны саветаў і ніхто іх не выпускае дамоў і аднойчы на апэлі раніцай жыхар з Арэшкава Яська давай скардзіцца перад нейкім палітруком украінцам Вайтэнкам, які вёў гэту пераклічку. Што, маўляў, вы нас бралі толькі на два тыдні, а тут прайшоў і трэці, а ў дома дзеці, жонка і праца ў полі... і слёзы нават паявіліся ў яго вачах. Тады Вайтэнка проста азвярэў і давай лаяцца не сваім голасам: «Да он ещё хочет домой и ещё плачет. Забудь свой дом, ды мы ещё будем воевать, не видишь, что на другом берегу стоит на чеку бусурман». Так, яны ведалі дакладна, што будзе вайна і Сталін ведаў гэта, а страты сваіх людзей і салдат у дыктатара цалкам не лічыліся. Гэта была толькі статыстыка ў яго і яго адданых генералаў-маршалаў, палкаводцаў, пра якіх напісаны цэлыя тоны пахвальнай літаратуры. Многія гісторыкі ўпэўнены ў тым, што Сталін меў поўны намер грымнуць поўным ударам на гітлераўскую Германію, аднак той другі — Гітлер — паспяшыў з гэтым і на шчасце на сваю пагібель. А страты на вайне мала калі з нейкай спагадай лічыліся, бо лічыўся толькі гэтак званы гераізм. А ён нават і быў.

А ў дома ў Дубічах неяк жыццё калілася сваім ходам, то горш, то лепш, і маці неяк упраўлялася так дома, як і на полі, і напэўна дзед Шуль у гэтым дапамагаў. І аднойчы маці прысніўся такі сон: нібы з захаду плыве на небе чорная і грозная хмара чуваць гром і бачны бліскавіцы. І тут муж яе (мой бацька) ужо вярнуўся з войска з-над Буга ў вельмі беднай вопратцы і без сумы, а на двары пуста — ані кала, ані двара. І мая маці пайшла да цёткі Сцепаніды, так яе звалі, а гэта родная маці Арцёма, Івана, Дзям'яна, Фёклы Чыквінаў. Яна добра тлумачыла сны. І калі выслухала аповед пра сон маёй маці, дык адказала: скора выбухне вайна з немцамі і твой муж Валодзя шчасліва вернецца дамоў, толькі на ўсё голае, бо ўсё будзе спалена датла. І так сталася ў поўнай меры і сон збыўся.

Арцём Чыквін настаўнічаў у вёсцы Грабавец. Калі я быў лістаношам, дык яго ўжо дарослыя, старыя вучні хвалілі, што добра і зразумела вучыў дзяцей граматы. Аднак былі нясслаўныя і ўстыдам пакрытыя некаторыя акцыі нашых (уладай пакрытыя) людзей. Бо рыхтаваўся спісак: каго з нашых жыхароў весці, як ворагаў, выслаць на белыя мядзведзі. Магчыма, яны думалі, што гэта толькі «перевоспитание» і там будуць у Сібіры іх добра даглядаць, карміць. І «кармілі» савецкай ідэалогіяй — тых, каго яны высылаюць. Я калісьці з адным з іх гаварыў на гэту тэму і ён мне коратка адказаў: у саветаў ніколі і ніколі бяды не было. Але нічога тут дзіўнага: калі ў цяперашняй Расіі палова яе грамадзян тое самае гаворыць і ўладу Сталіна, Хрушчова, Брэжнева... з адкрытым сэрцам, душою рукамі прынялі б як найвялікшае збавенне і яны проста плачуць па ёй. Так. Гэта праўда: Россию умом не поймёшь и аршином не измеришь, — сказаў калісьці расійскі паэт Фёдар Цютчаў....

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

# У Орлі маліліся за Беларусь




Ксёндз прэлат Збігнеў Кароляк і мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч. На другім плане абраз „Jezu ufam Tobie", намаляваны Міхалам Мінцэвічам

**Паявілася зацікаўленне Беларуссю**

Пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі я прачнуўся ў сваёй Польшчы быццам у іншай рэчаіснасці. Чаму? Бо па радыё ці тэлебачанні штодзённа паведамлялі пра сітуацыю ў Беларусі, былі „Рапарты з Беларусі". Паявілася, як ніколі дагэтуль, зацікаўленне Беларуссю, а нават сімпатыя да пратэстуючых беларусаў, ды любоў. Успомнілі пра Рэч Паспалітую дваіх народаў, што палякі і беларусы вельмі да сябе падобныя. Быў нават на другой праграме публічнага тэлебачання познім вечарам канцэрт для Беларусі; дарэчы, з вельмі сціплым саставам польскіх ды і беларускіх выканаўцаў, быццам не ведалі пра калектывы з Беласточчыны. „Гэта шок!" — як казаў Паўляк у фільме „Kochaj albo rzuć", бо такі шок адчуў і я сам, пачуўшы ўпершыню за сваё жыццё беларускую песню ў польскім тэлебачанні.

Але калі гаварыць пра пачуцці, то іх цяжка абмануць. Зацікаўленне польскіх палітыкаў Беларуссю ў тэлебачанні было сапраўднае. Чаму? Бо гэта наша суседка ды краіна, у якой шмат польскай нацыянальнай меншасці. Але тая быццам сімпатыя да Беларусі і беларусаў бярэцца выключна з нянавісці да Расеі, да Пуціна, а таксама са страху, каб Беларусь не стала „расейскай". Бо пра гэта кожнаму вядома і гэта перажоўвалася ў TVPInfo. Гудзела захапленне для пратэстуючых, але адразу ўсё быццам сціхла, калі Лукашэнка стаў кантактавацца з Пуціным. Пуцін жа не любіў Лукашэнкі, бо ён — як ні глядзець — быў самастойным. Польшча выказалася за шырокую дапамогу ў сябе праследаваным беларусам з Беларусі. Але што будзе, калі іх наедзе ў Польшчу столькі, колькі наехала да нас украінцаў?

Жыццё паказвае, што нават тая сімпатыя палякаў-католікаў да польскай каталіцкай меншасці ў Беларусі далёкая ад ідэалу, а нават, як, напрыклад, у Орлі, яе амаль няма. Бо католікі, якія моляцца па-беларуску? Мне была нагода пераканацца аб гэтым 15 верасня калі каталіцкую капліцу ў Орлі наведаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, грамадзянін Беларусі, якога не пусцілі на радзіму. У капліцы адбылося набажэнства на беларускай мове за спакой у Беларусі.

**Напярэдадні набажэнства**

Пра прыезд у Орлю арцыбіскупа Кандрусевіча даведаўся я з рэдакцыі „Нівы" напярэдадні. Крыху патэлефанаваў і паехаў на Орлю. Апякунка каталіцкай капліцы сказала, што таксама даведалася напярэдадні. Яна нарыхтавала сімвалічны вялікі бела-чырвона-белы сцяг, які апярэзваў прастол. Сама не ведала падрабязнасцей, як гэта адбудзецца. У Гміннай управе ніхто афіцыйна нічога не ведаў, ніхто там афіцыйна не інфармаваў, не запрашаў. Адказвалі мне таксама неафіцыйна.

Пытаныя мною напатканыя праваслаўныя жыхары нічога не ведалі, а калі я паведамляў іх, то адказвалі, дзеля ветлівасці, што можа і пойдуць у каталіцкую капліцу, іншыя маўчалі, а яшчэ іншыя згадвалі, што ўжо раз праваслаўныя наведалі каталіцкую капліцу.

Мова тут пра тое, што ў памяці праваслаўных моцна захавалася падзея з ліпеня 2017 года, калі праваслаўныя вернікі масава „мусілі" пайсці ў каталіцкую капліцу на паховіны праваслаўнага мужчыны. Пакойнік, жыхар Орлі, вельмі сумленны і працавіты чалавек, нечакана памёр на працы ў Ісландыі. Там адбылося праваслаўнае набажэнства, паніхіда і астанкі былі скрэміраваны, бо немагчыма было прывезці іх з такой далечыні ў трывалым стане. Ну і ў Орлі ўдава разам з сястрою пакойніка падаліся да новага настаяцеля арлянскага праваслаўнага прыхода, каб той здзейсніў абрад паховін урны з астанкамі пакойніка; былі ў іх дакументы аб адслужаным, яшчэ над целам пакойніка, праваслаўным набажэнстве ў Ісландыі. Але, відаць, не дамовіліся, калі праваслаўнага хаваў каталіцкі ксёндз. Быў я на гэтых паховінах і было вельмі прыкра, калі ў пахавальным шэсці пачуў я галосную ўвагу католікаў: „To co, wracacie do korzeni?" Вялікія паховіны, а хаваў ксёндз прэлат Збігнеў Кароляк з малітвай на польскай і беларускай мовах (служыў ён восем гадоў у Беларусі). Ён 15 верасня таксама прыехаў у Орлю на набажэнства „За Беларусь" з арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам.

**Набажэнства**

Ксёндз пробашч Збігнеў Кароляк:

— Шчыра вітаю Вашу эміненцыю, мітрапаліта мінска-магілёўскага, грамадзяніна Беларусі, які знаходзіцца цяпер сярод нас і асабліва ўдзячны Вашай эміненцыі, што Вы адклікнуліся на просьбу арлянскай супольнасці, каб памаліцца за Касцёл і за Беларусь, за спакой, за павагу, любоў, каб кожны чалавек у сваёй радзіме на беларускай зямлі мог любіць Бога і любіць бліжняга. Просім малітвы і ахвяры ў гэтай інтэнцыі.

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч:

— Многапаважаныя ксёндз пробашч, паважаныя браты і сёстры! У пачатку гэтай святой імшы шчыра ўсіх вітаю. Дзякую за запрашэнне сюды, у вашу парафіяльную супольнасць. Я нячаста сюды прыязджаю, але праязджаючы заўважыў, што некаторыя вёскі, некаторыя населеныя пункты пазначаны на дзвюх мовах: польскай і беларускай. Гэта знак талерантнасці, знак пашаны да нацыянальных меншасцей. Будзем маліцца і разам з вамі прасіць благаславення па ўсіх нашых справах, благаславення для вашай парафіі, для вашых вернікаў, благаславення для Беларусі, благаслаўлення для ўсіх нас (...)

Набажэнства на беларускай мове правіў мітрапаліт Кандрусевіч у саслужэнні пробашча Кароляка. Мітрапаліт шырока і ясна тлумачыў сэнс Евангелля. Для супольнай малітвы вернікам быў нарыхтаваны беларускі тэкст лацінкай.

На аргане падыгрываў арганіст з Боцькаў (ён часам прыязджае ў Орлю на нядзельныя набажэнствы). Псалмы на беларускай мове чытала дзяўчына з Орлі Вікторыя Залеўская, а спявала Барбара Савіцкая (апякунка капліцы; яна таксама шмат гадоў працуе грамадска і выдае ў капліцы харчы з ЕС для ўбогіх жыхароў). Прыслужваў хлапец Бартэк Гоф з Орлі.

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч:

— (...) Молімся за ўсіх нас тут прысутных на гэтай святой імшы, за ўсіх, што перажываюць свае цяжкасці, за ўсіх, што прыйшлі сюды са сваімі просьбамі, з падзякамі, з каяннем напэўна, каб добры і міласцівы Бог прыняў нашы малітвы. Молімся за хутчэйшае завяршэнне палітычнага крызісу ў Беларусі, каб ён завяршыўся мірным шляхам і каб наша краіна магла будаваць сваё шчасце паводле прынцыпаў духоўных, евангельскіх прынцыпаў, просім.

Молімся да Айца Нябеснага, як навучаў Езус Хрыстус: Ойча наш, каторы ў Нябёсах (...), просім Цябе, Пане, збаў нас ад усяго зла, дай ласкава супакой у дні нашы, дапамажы нам міласэрнасцю Тваёй, каб былі мы заўсёды вольныя ад граху і захаваны ад усялякага неспакою, каб чакалі спаўнення шчаслівай надзеі і прыйсця Збаўцы нашага Езуса Хрыста...

Пасля звярнуўся ксёндз прэлат Збігнеў Кароляк:

— Шчыра дзякуем Вашай эміненцыі за малітвы за Беларусь, за супакой, каб усе людзі маглі дбаць пра сваю радзіму і пра сябе, з павагай да сябе, да дзяржавы і да запавету Божага. Шчыра Вам дзякуем за гэтую малітву і спадзяемся, што Вы скора будзеце на сваёй радзіме, сярод сваіх вернікаў і яны будуць з Вамі. Дзякуй Вам.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч:

— Шчыра дзякую ўсім за арганізацыю святой імшы, асабліва ксяндзу пробашчу, а таксама ўсім, хто сёння прыйшоў. Добрае надвор'е, можа шмат хто сядзіць у агародах ці ў лесе на грыбах (усмешка). Колькі сабралася, столькі сабралася, гэта знак таго, што вы хочаце таксама і на беларускай мове маліцца і няхай добры Бог благаславіць вам...

* * *

У Орлі і наваколлі больш соткі каталіцкіх вернікаў, сярод іх ёсць і такія, якія зусім не ходзяць у капліцу а па калядзе прымаюць толькі бацюшку. Ёсць і такія, што ходзяць і ў капліцу, і ў царкву і прымаюць па калядзе ксяндза а пасля і бацюшку. У Орлі гэтыя справы вельмі складаныя — у многіх арлянскіх католікаў шмат праваслаўных продкаў. Такіх „чыстых" католікаў амаль няма — каля дваццаці асоб з ліку карэнных жыхароў. У апошніх гадах паявіліся прыезджыя католікі, якія — што відаць — не цэрпяць мясцовай гаворкі і праваслаўных, яны нават не вітаюцца з суседзямі, лічаць праваслаўных людзей фальшывымі — гэта я чуў асабіста. А дзіўнейшае яшчэ і тое, што ў ліку тых, хто з антыпатыяй адносіцца да праваслаўных, ёсць і карэнныя католікі і то нават з мешаных сем'яў.

Чаму я пішу аб гэтым? Таму што на гэтым набажэнстве за спакой на Беларусі было вельмі мала католікаў. Гэта зразумела — бо як пойдзе на малітву на беларускай мове той, хто не цэрпіць тут нашай гаворкі? На другі дзень пытаў я некаторых католікаў, чаму не былі на малітве. У адказ пачуў я толькі „А-а-а-а".

Адна асоба сказала мне цікавінку. Пачула яна ад беларускі, якая сюды прыйшла замуж: „Чаго яны [пратэстуючыя ў Беларусі] хочуць? Там усяго ўдоваль, усё маюць. У нас прынялося, што калі перапіс насельніцтва, то праваслаўны адразу беларус. Я б тых [мясцовых беларусаў] усіх адаслала б туды, на Беларусь!"

Гэтае выказванне сканфрантаваў я з іншым католікам: „Яна такая ўжо ёсць і так гаворыць. У Орлі добра між сабою жылі і жывуць праваслаўныя з католікамі, узаемна гасцююцца".

Хаця тое меркаванне жанчыны адасобленае, то — хто ведае — колькім такая думка сядзіць у галаве. Калісьці пажылая арлянская жанчына (яе муж католік, дзеці хрышчаныя ў касцёле, а яна праваслаўная) сказала: „Як гэта ёсць? У каталіцкай капліцы гаворыцца пра Бога, Езуса, а на алтары вісіць вялікі партрэт папы і моляцца да папы Яна Паўла II".

Сапраўды так ёсць у Орлі: перад вачыма вернікаў зверху вісіць ікона Маткі Боскай, а пад ёю вялікі партрэт папы. Але ў капліцы ёсць і немалы абраз „Jezu ufam Tobie" на бакавой сцяне; хачу прыгадаць, што гэты абраз (копію арыгінальнага) намаляваў у палове 1990-х гадоў мастацкімі фарбамі на льняным палатне аўтар гэтага артыкула, Міхал Мінцэвіч.

Мае сямейныя карані мяшаныя, і я гэтым ганаруся. Мой пакойны бацька Ян паходзіў з Віленшчыны, быў католікам, служыў у Войску Польскім, 20 жніўня 1939 года быў мабілізаваны ў 86-ы Пяхотны полк у Маладзечне, ваяваў з немцамі пад Пётркавам-Трыбунальскім, яго полк быў разбіты ўжо 5 верасня. Бацька трапіў у нямецкі палон, прабываў сямнаццаць месяцаў у лагеры ў Хоерсвердзе, да 6 студзеня 1941 года, адкуль трапіў на прымусовыя работы да баўэра ў вёсцы Вейхтэрын у Лейпцыгскім павеце. Пакойны мой бацька тут, у Орлі, увесь час размаўляў на чыстай беларускай мове.

Мяне ахрысцілі ў царкве і я ўвесь час сваткую абодва — каталіцкія і праваслаўныя — святы. І я такі арлянец-мяшанец, але ў самаўрадавых выбарах католікі на мяне не галасуюць (апрача аднай каталіцкай сям'і, дзе жанчына праваслаўная).

* * *

Каталіцкае набажэнства на беларускай мове ў Орлі мне — і не толькі мне — вельмі падабалася. Удзельнічала ў ім каля сарака асоб, з чаго толькі налічыць арлянскіх католікаў. Былі дзве праваслаўныя жанчыны (адна жыве побач капліцы), была дырэктар Пачатковай школы ў Орлі, апошнія былі звонку, у тым шматлікія медыя.

Каталіцкае набажэнства на беларускай мове ў нашым і далейшым наваколлі выклікае і здзіўленне, і зацікаўленне. З зусім неафіцыйных крыніц даведаўся я, што мітрапаліт Кандрусевіч пражывае ў адной з бельскіх плябаній.

Запісаў і сфатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

1 ☞ працяг

другую ўзнагароду ў катэгорыі старэйшых вучняў пачатковых школ.

Агнешка Ціханюк з белмузея сказала, што пры ацэнцы прац члены журы звярталі ўвагу, між іншым, на сугучнасць зместу працы з лозунгам конкурсу «Я нарадзіўся тут».

— На працы Аляксандры Жукавіцкай з Орлі ёсць практычна ўсё найважнейшае. На рабоце відаць бацькоў Аляксандры з дзяцьмі, ручнік з надпісам па-беларуску «Я нарадзіўся тут», вышыўку з беларускімі ўзорамі на ім, царкву, касцёл, сінагогу, дом, дзе яна жыве і прыроду Арлянскай гміны, якую дзяўчынка бачыць у сваім наваколлі, з дрэвамі, птушкамі і ветракамі. Аляксандра спасылаецца на традыцыю і паказвае сучаснасць месца, дзе жыве, — сказала Агнешка Ціханюк.

Аляксандра Жукавіцкая радавалася, што за сваю працу атрымала першую ўзнагароду ў катэгорыі малодшых вучняў пачатковых школ. Яе мама Эва Жукавіцкая заявіла, што працу яе дачка выканала цалкам самастойна, а яна толькі прапанавала Аляксандры дэталі, якія можна было дабавіць на карціне.

— Да ўдзелу ў конкурсе маю дачку і яе дзве сяброўкі заахвоціла Таццяна Андрацкая — настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Шудзялаве. Мне таксама


■ Ян Каронка з Беластока

■ Анастасія Онішк з Хмялеўшчыны

спадабаўся гэты конкурс, які дазваляе дзецям выявіць сваю крэатыўнасць і запрэзентаваць між іншым тыя месцы, сімвалы і асобы, якія ім дарагія і важныя, — заявіла журналістка Анэта Прымака-Онішк.

— Я на працы прадставіла лася, якога бачыла каля месца, дзе мы жывем. Нарысавала царкву і іншыя будынкі, якія ёсць у нашым наваколлі, — пералічыла Анастасія Онішк з Хмялеўшчыны Сакольскага павета, якая ў конкурсе атрымала вылучэнне ў катэгорыі малодшых вучняў пачатковых школ.

— Я запрапанавала сыну прыняць удзел у конкурсе. Выканаў ён працу мяшанай тэхнікай і я рада, што атрымаў другую ўзнагароду ў катэгорыі малодшых вучняў. Мы жывем у Беластоку, але праца тычыцца вёскі Аслова, распаложанай непадалёк ад Сямятыч, — сказала Марта Каронка. Яе сын Ян Каронка сказаў, што вядучым матывам працы была драўляная хата ў месцы жыхарства прабабулі, адкуль засталіся незабыўныя ўспаміны.

У катэгорыі дашкольнікаў першую ўзнагароду атрымала Мілена Грамацкая з Гайнаўкі, другую ўзнагароду камісія прызначыла Анне Барташук з Гайнаўкі і Матэвушу Каліноўскаму з Ліпін. Трэцюю ўзнагароду атрымала Алівія Казак з Гайнаўкі. Сярод вучняў малодшых класаў трэцюю ўзнагароду журы прызначыла Аркадзію Каліноўскаму з Ліпін. У катэгорыі вучняў старэйшых класаў трэцюю ўзнагароду атрымалі Юсцінія Астапковіч і Наталля Главацкая з Гайнаўкі. Другое месца сярод вучняў сярэдніх школ заняў белліцэіст Патрык Янчук з Гайнаўкі. Малодшыя дзеткі прыбылі на спатканне са сваімі бацькамі і настаўнікамі, якім паказвалі свае працы. Радасць была вялікая ў тых дзетак, якіх работы былі ўзнагароджаны або вылучаны і трапілі на конкурсную выставу.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**



# http://gallery.baj.by

У людзей, асабліва па-за межамі Беларусі, якія не надта цікавяцца палітыкай, цяперашнія беларускія пратэсты выклікаюць па меншай меры непаразуменне. Маўляў, што там такога было не так, што беларусы выйшлі на вуліцу нечага патрабаваць. Цяжка адразу патлумачыць, што гэты пратэст накопліваўся гадамі і ён быў бачны таму, хто меў расплюшчаныя вочы. Гэтыя людзі здаўна зразумелі сутнасць лукашэнкаўскага рэжыму, распавядалі пра прычыны незадавальнення шмат і не аднойчы. Праўда, слухаць іх тыя, хто палітыкай не цікавіўся, не хацелі. Але ёсць кнігі, якія выдаваліся задоўга да сёлетніх пратэстаў, прачытаўшы якія можна многае зразумець.

Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) яшчэ летась стварыла сайт у інтэрнэце, які мае назву „Галерэя БАЖ". Ён месціцца па адрасе **http://gallery.baj.by** і на дадзены момант змяшчае пералік кніг журналіста і публіцыста Аляксандра Тамковіча. „Свет пабачылі ўжо некалькі дзясяткаў яго кніг, у якіх перад намі паўстае сучасная Беларусь у выглядзе лёсаў людзей, якія будавалі і працягваюць будаваць гэтую самую сучаснасць роднай краіны", — распавядаецца на старонцы „Кнігі", якая ідзе першай у пераліку рубрык з левага боку цэлага выяўлення. Пра аўтара невялікія біяграфічныя даныя падаюцца на галоўная старонцы сайта.

Пералік назваў кніг, кожная з якіх вядзе на асобную старонку, пададзены ў алфавітным парадку. І першай ідзе „Арытмія, альбо Код супраціву". Яна выйшла ў 2012 годзе ў расійскім Смаленску. „«Арытмію» прапанаваў настаўнік у журналістыцы Аляксандр Уліцёнак, за што яму — асобны «Дзякуй!». Сапраўды, гэтае слова ў нашай краіне можна ўжываць і не ў медычным плане. Так што героі нарысаў у нейкім сэнсе не толькі ствараюць найноўшую гісторыю Беларусі, але і дапамагаюць грамадству пазбавіцца небяспечных хвароб — інертнасці і абыякавасці. А «Код супраціву» ад майго другога рэдактара — Аляксея Караля. Крыху парадаксальна, але дадаць яго я вызначыў перш за ўсё таму, што героі гэтых нарысаў змагаюцца за тое, каб вярнуць усім нам нармальны рытм", — гаворыцца ў анатацыі Тамковіча да кнігі, якая як і іншыя не змешчана на сайце ў электронным выглядзе. Зараз, падчас пратэстаў, можна сведчыць, што беларускае грамадства актыўна пазбаўляецца інертнасці і абыякавасці. Гэта значыць, што аўтар, напісаўшы гэтую кнігу, дасягнуў сваёй мэты.

Вартай увагі падаецца і кніга „Жыццё пасля кратаў", якая выйшла ў 2013 годзе і распавядае пра тых, хто быў зняволены ў выніку паслявыбарчых падзей 2010 года. „Прайшло два гады пасля падзеяў, якія ўжо ўвайшлі ў найноўшую гісторыю Беларусі як «Плошча-2010». Аднак для многіх дзень 19-га снежня 2010-га года яшчэ не скончыўся, ён доўжыцца і сёння, бо да гэтага часу ў турмах знаходзяцца некаторыя з тых, хто сваімі лёсамі стварае тое магутнае супрацьстаянне, якое ўзрушыла краіну і да гэтага часу адбіваецца пульсуючым болем у нашым грамадстве", — пісаў тады Аляксандр Тамковіч.

А ў той памятны год аўтар выпусціў яшчэ адну кнігу, якая можа патлумачыць многае, што адбываецца зараз. „З чаго пачынаецца свабода" — расповеды пра тое, што свабода як і дрэва паўстае з маленькага зярнятка.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара



# 100 гадоў з дня нараджэння Юркі ЛУЦКЕВІЧА

Беларускі вайсковец, настаўнік, адзін з кіраўнікоў Беларускай незалежніцкай партыі, вязень савецкіх канцлагераў Юрка Луцкевіч нарадзіўся 22 кастрычніка 1920 года ў Вільні. Сын беларускага палітычнага дзеяча Антона Луцкевіча, старэйшы брат таксама вядомага беларускага дзеяча Лявона Луцкевіча.

Юрка Луцкевіч быў ахрышчаны паводле кальвінісцкага абраду. У 1929 годзе, калі хлопчыку было толькі 9 гадоў, памерла маці — Соф'я Луцкевіч, бацька Антон другі раз ужо не жаніўся. Асірацелая сям'я жыла ў нястачы ў аднапакаёвай кватэрцы па вуліцы Піўной, аднак Антон Луцкевіч імкнуўся даць сынам добрую адукацыю. Юрка скончыў Віленскую беларускую гімназію і Віленскую электратэхнічную вучэльню імя Пілсудскага. Далей быў залічаны ў Варшаўскі палітэхнічны інстытут, але прыйшла пара прызыву ў войска. Навабранца накіравалі ў польскую афіцэрскую школу. З надыходам Другой сусветнай вайны ў верасні 1939 года Луцкевіч трапіў у нямецкі палон, адкуль пазней быў вызвалены. Яшчэ раней бацьку — Антона Луцкевіча — арыштаваў НКВД. Пэўны час пазней Юрка Луцкевіч працаваў электраманцёрам у Вільні, жыў у доме нумар 2 па вуліцы Піўной. Калі Літву ў ліпені 1940 года зрабілі савецкай рэспублікай, браты Луцкевічы жылі на паўлегальным становішчы.

Маючы за плячыма гімназію і ліцэй, Юрка Луцкевіч мог працаваць настаўнікам. З прыходам на тэрыторыю БССР немцаў галоўны школьны інспектар генеральнай акругі Беларутэнія, святар Вінцэнт Гадлеўскі, пачаў арганізоўваць беларускія школы. Браты Луцкевічы сталі настаўнікамі Радашковіцкай сямігадовай школы. Юрка быў яе дырэктарам і настаўнікам матэматыкі, а Лявон выкладаў беларускую мову і літаратуру. На гэтай працы яны былі да снежня 1942 года, а пасля пераехалі ў Баранавічы, дзе была прагімназія. Браты ўвайшлі ў Беларускую незалежніцкую партыю, а ў 1944 годзе ў Беларускую краёвую абарону, сталі яе афіцэрамі. У тым жа годзе эвакуяваліся з Беларусі і працягнулі службу ў дэсантным батальёне „Дальвіц". Юрка Луцкевіч працаваў выкладчыкам у разведвальна-дыверсійнай школе. Увесну 1945 года разам з Усеваладам Родзькам браты ўцяклі з Чэхіі ў Польшчу, дзе планавалі арганізаваць антысавецкі рух у Польшчы і БССР. Жылі ў Варшаве пад прозвішчам Кшывіцкія.

У канцы 1945 года Юрку Луцкевіча арыштавалі ў Варшаве і выдалі ў Савецкі Саюз. З фармулёўкай „за супрацу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі" быў прыгавораны да 25 гадоў савецка-сталінскага канцлагера. Тэрмін зняволення адбываў на Калыме. Маючы дыплом электратэхніка, нават у зняволенні працаваў па спецыяльнасці, быў таксама фельчарам — тут прыдалося веданне лацінскай мовы.

Вызвалілі Юрку Луцкевіча толькі 14 жніўня 1956 года. Пасля вызвалення ён вярнуўся ў БССР у 1957 годзе і неўзабаве пераехаў у Вільню. Працаваў у сістэме Міністэрства будаўніцтва Літоўскай ССР у электрамантажным трэсце. Быў электратэхнікам 6-га разраду, але фактычна працаваў інжынерам. Нягледзячы на тое, што з яго знялі судзімасць, рэабілітаваны не быў.

Яшчэ ў час адбывання зняволення пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, масквічкай Нінай Злыгосцевай, маладзейшай на 15 гадоў, якая ў 1967 годзе пераехала ў Вільню. Юрка Луцкевіч усынавіў дзіця Ніны ад першага шлюбу — хлопчыка Сяргея. Пасля гэтага ў новай сям'і нарадзіліся яшчэ дачка Алеся і сын Іван. Дачка стала дэфектолагам, а сын — джазавым музыкантам.

Памёр Юрка Луцкевіч 12 жніўня 1992 года ў Вільні.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Новая святліца

Мураваную святліцу пабудавалі ў вёсцы Новая Лука (па вуліцы Ясянёвай) Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Будматэрыялы прывезлі з недалёкай адсюль керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове. Прыгожы будынак акружаюць вечназялёныя хваёвыя высокія дрэвы.

Святліца ў Новай Луцэ мае сем акон, адзін уваход і спецыяльны пад'езд з поручнямі для наведвальнікаў на калясках. У святліцу прывезлі клубнае абсталяванне. Мае яна кухонны пакойчык, у якім, між іншым, у электрычным чайніку можна заварыць ваду на каву або гарбату.

Зараз у вокнах павесілі прыгожыя фіранкі ды стаяць вазоны з кветкамі верасу. Зімой клубнае памяшканне будзе абагравацць кафельная печка г.зв. сцяноўка. Ужо нарыхтавалі крыху дроў.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**



## Нашы карэспандэнты

### Крама ў Старым Ляўкове

Гмінная спулдзельня (ГС) у Нараўцы Гайнаўскага павета існуе шмат гадоў. Зараз яна мае адны толькі прадуктовыя крамы, між іншым, у Альхоўцы, Нараўцы, Плянце і Старым Ляўкове. Яны вельмі патрэбныя жыхарам вёсак, да іх ім найбліжэй і найвыгадней. ГСаўскія крамы добра працуюць. Вядома, канкурэнтных жа крам шмат. Ёсць крамы, між іншым, ПСС „Сполэм", „Аргелян", „Бядронка", „Ашон" і прыватныя.

Новаляўкоўцы хваляць добрую працу крамы ГС у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны. Яны звярнуліся да мяне, каб я пра яе напісаў у „Ніву". Пакупкі можна тут рабіць цэлы дзень. Маладыя прадаўшчыцы клапоцяцца, каб кліент выйшаў з крамы задаволены, каб усё яму патрэбнае мог купіць. Падабаецца кожнаму пакупніку ветлівае абслугоўванне. У сярэдзіне крамы парадак, прыгожыя паліцы і прылаўкі, добрае электраасвятленне.

Зараз у старалыўкоўскай краме адправіце пісьмо і іншую пасылку, заплаціце рахунак за электраэнергію, купіце карту для папаўнення мабільнага тэлефона, гэтак званую распалку ў пакетах, а таксама балон з газам. **(яц)**



Вера Клімюк



Віталь Скепка

### Мы з „Нівай" круглы год

Кастрычніцкія нумары „Нівы" № № 40, 41 і 42 чыталі шматлікія жыхары вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета, між іншым, Альхоўкі, Гушчэвіны, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Лешукоў, Міхнаўкі, Нараўкі, Новін, Плянты і Семяноўкі, а таксама мае знаёмыя з Гайнаўкі. Родны часопіс чыталі, між іншым, радныя з Гушчэвіны, Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Плянты і Семяноўкі. 42 нумар „Нівы" ад 18 кастрычніка г.г. я выслаў брату Міхасю ў Шчытна. Яго цікавяць весткі з роднай вёскі Новае Ляўкова і ваколіцы. А ў гэтым нумары яны былі.

У нядзелю, 18 кастрычніка г.г. зрабіў я здымкі верных і шматгадовых чытачоў беларускага часопіса Веры Клімюк з Плянты і Віталя Скепкі з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны. Пра іх я пісаў раней, а здымкі зрабіў ім упершыню і не інакш — з „Нівай".

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

## 25.10 — 31.10

**(22.03. — 20.04.)** 24-26.10. развяжаш справу, з якой ніхто не даў бы рады. Да канца будзеш змагацца за чыёсьці сэрца. Умела выкарыстаеш кожную сітуацыю, каб дабіцца свайго. Шчасце і прыхільнасць людзей. Хоць свет можаш убачыць у чорна-белым колеры, крайнасць табе не зашкодзіць. Можаш старацца за павышэнне.
**(21.04. — 21.05.)** 30-31.10. не зрабі памылкі, узяўшы мімалётную жарсць за сапраўднае пачуццё. Шмат прыемнасці і радасці. Дасі рады ў фінансах і кіраванні большымі праектамі. Можаш падпісаць важную дамову. Затое крыху аслаблення арганізму, таму прыслухоўвайся да нават малых нямогласцей; каб хвароба хутка не развінулася.
**(22.05. — 22.06.)** 24-26.10. выявіцца праўда, пра якую ты не хацеў бы ведаць. Аж пасля 28.10. даведаешся, як стаяць справы ў пачуццях. Перашкаджаць табе будзе бюракратыя, лепш мо не падпісвай дамоў, не пачынай супрацы, новай работы. Слухай парад і вучыся на чужых памылках. Не ўпускай дэталяў, бо могуць аказацца быць вельмі важнымі. Дбай аб свой імунітэт.
**(23.06. — 23.07.)** 24-26.10. зоркі памогуць табе дагаварыцца з цяжкімі кліентамі. На працы магчымыя перастоі; збірай дакументы і інфармацыі. Асцярожна выдавай грошы. Не бяры цяпер пазык. Калі на чымсьці табе залежыць, узбройся ў цярплівасць. Не павучай сяброў. Апынешся ў важны час і на патрэбным месцы. Моцнае здароўе, але пільнуйся ад стрэсу.
**(24.07. — 23.08.)** Могуць паявіцца праблемы ў хаце, якія могуць легчы ценем на стасункі на працы. Але хопіць табе аптымізму і добрых задум. Пасля 28.10. узнагарода за турботы ў пачуццях. Леў, які марыць стаць кіраўніком сваёй фірмы — цяпер твой час!. Вынікі на працы будуць найлепшыя, калі не будзеш сапернічаць. Фінансава не пад горку, але не мрой аб вялікай фартуне, і не раскідвайся грашыма, каб лістапад не сустрэць з даўгамі.
**(24.08. — 23.09.)** 24-26.10. будзеш умець змагацца за сваё, нікога не абражаючы. Да 28.10. дасі рады з нейкай праблемай. Выпадкова здзейсніцца твая мара. Атрымаеш дапамогу, якой не спадзяешся. Можа ахапіць цябе новая жарсць. У пачуццях — проста як у казцы! Можаш спадзявацца пералому ў судовых справах. Знайдзі сабе кудлатага сябра — ён утрымае цябе ў добрай форме і прагоніць чорныя думкі.
**(24.09. — 23.10.)** Пераможаш кожную перашкоду. Можаш сягнуць вяршынь з верай у сябе і з няўрымслівасцю. Праца не пойдзе дарма, а вынікі будуць неўзабаве. Цудоўна ў кампанейскім плане, новыя знаёмствы, пасля працяг кантактаў, але асцярожна — хутчэй анлайн. Бліскучасць, інтэлігентнасць гарантуюць поспех, аб якім іншыя мараць. Могуць дакучаць табе ныркі, пільнуйся, каб не паламацца.
**(24.10. — 22.11.)** 25, 26.10. ўдадуцца справы з жыллём ва ўстановах, у судзе. 24-26.10. ты як спрытны ігрок выкарыстаеш усе сабраныя раней інфармацыі, нават з плётак. Усё, што пачнеш, кончыцца поспехам. Умела ідзеш уперад. Пазітыўная энергія. Найважнейшыя жыццёвыя рухі выканай адзін. Асоба, якая вакол цябе робіць замяшанне, акажацца быць няшкоднай. Пільнуй здабытага! Не злуйся, асабліва на вуліцы! Не падхапі вострай інфекцыі
**(23.11. — 22.12.)** 28.10. на тваёй дарозе стане асоба, да якой з першага пагляду адчуеш цягу. Стральцы ў пары, не будзьце самаўпэўненымі — мусіце пастарацца зноўку ачараваць партнёра. Пасля 28.10. запануеш над усім у хаце і сярод сяброў, хаця прыйдзецца звярнуцца да чужых асоб. Але асцярожна разбірайся сярод новых знаёмых. Пасля 28.10. лягчэй будзе знайсці працу. Будзеш спраўны, лоўкі. Каля 28.10. не ўваходзь у спрэчкі, добра падрыхтуйся да экзаменаў.
**(23.12. — 20.01.)** Удала дагаворышся з усімі і атрымаеш усё што захочаш. 24-26.10. чакае цябе вельмі ўдалая паездка, але моцна пільнуй сваё здароўе. Нябдага ў інтарэсах. Здабудзеш сваё, а магчымым сапернікам пакажаш іх месца ў радзе! Выкарыстай дробны, хоць непаўторны шанц. Ды не абміне цябе дантыст! Казярог з III дэкады — нага з газу!
**(21.01. — 19.02.)** 29-31.10. пакажаш сваю незалежнасць мышлення і арыгінальныя задумы. Хуткія поспехі. Не адмаўляйся ад запрашэнняў! Захапляючыя рэфлекс, рашучасць, хуткасць дзеянняў, адважныя рашэнні. Калі будзеш сватам, неўзабаве загуляеш на вяселлі! Не распавядай сакрэтаў. Падлячы калені і суставы, задбай аб свае нервы, пазбягай канфліктных сітуацый.
**(20.02. — 21.03.)** Праца будзе прыемнасцю, а твае задумы будуць мець прызнанне. 24-26.10. высвятленне адносін, у старых парах новае збліжэнне. 25, 26.10. паб'еш контркандыдатаў, ідэальны час на размовы, здаванне экзаменаў; паглыбляй новыя напрамкі ведаў, нават калі ў вучобу трэба заінвеставаць — неўзабаве ад гэтага будзеш мець прыбыткі. Ігрaй у латарэю. Пакажацца з цябе немалы мастак; спалучыш рацыянальнае з гэтым, чаго розум не ахопіць!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. лёгкі вецярок з мора або на мора = 9 _ 10 _ 11 _ 29 _;
2. невялікі лясок у... Гайнаўцы = 14 _ 31 _ 32 _;
3. урачыстая мелодыя, сімвал дзяржаўнасці = 26 _ 27 _ 12 _ 30 _;
4. псаломшчык = 7 _ 13 _ 20 _ 21 _;
5. замінка ў руху каня ў... разбойніка = 22 _ 23 _ 8 _ 5 _;
6. напрыклад, ікол = 6 _ 15 _ 16 _;
7. горад між Полацкам і Барысавам = 1 _ 2 _ 3 _ 4 _ 24 _ 19 _;
8. партнёрка бацькі = 28 _ 25 _ 18 _ 17 _;
9. хвойнае дрэва ў... націску = 34 _ 35 _ 33 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | | | | | | | |
| | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 39 нумара**

Брага, вера, гаць, код, кумір, лён, ліпа, пена, печ, саха, сонца.

Рашэнне: **Добрага карчма не папсуе, ліхога касцёл не направіць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 39,00 zł., półroczna 78 zł., roczna 156 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 70 zł., półroczna 140 zł., roczna 280 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.


Інтэр'ер белавежскай царквы

# Вавілонская (Бела)вежа


Вароты з царквы ў царскі палац

XI раздзел біблейскай кнігі Быццё: „Пасля патопу людзей на зямлі ўсё большала і большала. Паводзіле яны сябе так, як і тыя, што жылі перад патопам. Карысталіся яны адной мовай, адною гаворкай, памнажалі распусту. Аднойчы сабраліся ў гурт і пачалі разважаць і даваць парады адзін аднаму, кажучы: «Пакуль яшчэ па зямлі не рассяліліся, давайце пабудуем сабе горад і вежу, каб яна аж нябёсы кранала і праславім сябе як належыць». А колькі было пыхі і гордасці ў гэтым народзе. Як ім падабалася гэтая задума. Натхнёна і заўзята яны пачалі будаўніцтва. Бог паглядзеў на іх ганарыстыя твары і сказаў: «Вось, народ адзін і мова ва ўсіх адна; і не адмовяцца яны ад таго, што надумалі зрабіць. Сыдзем да іх і пераблытаем там мову так, каб яны не разумелі адзін аднаго». Гасподзь пераблытаў мову, і будаўнікі не разумелі адзін аднаго. Работу спынілі. Ані вежы, ані горада яны не пабудавалі. І людзі, не разумеючы адзін аднаго, па ўсёй зямлі рассяеліся".

Існуюць і іншыя апісанні гэтага сюжэта, такое напрыклад: „Паводле адной з легенд, людзі збунтаваліся супраць Бога. На якой аснове Ён заняў верхні свет, кідаючы людзям свет ніжні. Збудуем вежу да Нябёсаў і наверсе паставім ідала з мячом скіраваным супраць Бога. Вежу будавала шэсцьсот тысяч чалавек цягам сарака трох гадоў. І дацягнулі збудаванне да такой вышыні, што дастаўка адной цэглы з зямлі наверх займала цэлы год. І калі такая цэгла незнарокам падала і разбівалася аб зямлю, то людзі горка плакалі. А калі падаў і забіваўся чалавек, то апошнія былі раўнадушнымі да такой падзеі. Гасподзь спярша дазволіў прадаўжаць такую безразумную работу, мяркуючы, што яны самі схамянуцца сваёю недарэчнасцю, але надарэмна. Тады змяшаў Ён іх мовы і, не разумеючыся ўзаемна, людзі спынілі будаванне вежы. Частка іх была заменена ў малп, злых духаў, дэманаў і зданей".

Такія сюжэты паўставалі не толькі ў Месапатаміі, дзе знаходзіўся Вавілон, яны былі прысутныя і ў іншых частках зямнога шара, у тым ліку ў Чорнай Афрыцы і ў Чырвонай Амерыцы. Тлумачэнні гэтай легенды зводзяцца агульна да таго, што чалавеку нельга занадта буяніць, што ён з'яўляецца толькі маленькай крупінкай у касмічным вымярэнні. Што трэба перад веліччу Космасу захаваць адэкватную сціпласць. Дарэчы, легенда пра будаўніцтва сягаючай Нябёсаў вежы — не адзіны біблейскі сюжэт заклікаючы да памяркоўнасці. Падобны сэнс нясе таксама расказ пра адну з падзей з удзелам старазапаветнага прарока Іліі:

Міналі гады і змяняліся цары. Аднойчы ў Ізраілі на прастол узышоў Ахаў — самы бязбожны цар. Да яго ў Ізраілі не было падобнага. У Ахава была жонка-язычніца, называлі яе Іезавель. Яна перакanала мужа пакланяцца Ваалу. Ваал быў галоўным фінікійскім богам, легендарным уладаром бурай, громам, маланкай і дажджом, даравальнікам дабрабыту. Настаў час засухі ў Ізраілі — доўжылася яна тры з паловай года. Ілія пайшоў тады да Ахава і сказаў яму што трэба пакланяцца толькі аднаму-адзінаму сапраўднаму Богу. Каб пераканацца, які Бог менавіта сапраўдны, запрапанаваў прынесці ахвяры, не падкладваючы агню, каб сапраўдны Бог паслаў на ахвяраванне агонь з Нябёсаў. Чатырыста пяцьдзясят Ваалавых жрацоў цэлы дзень заклікалі свайго бога, але агонь на іх ахвярніку не паявіўся. Ілія сваю ахвяру паліў вадою, затым памаліўся, на яго ахвярнік сышоў агонь і спапяліў ахвяру разам з ахвярнікам. А пасля Ілія памаліўся аб дажджы і засуха скончылася...

Яшчэ вярнуся да легенды пра Вавілонскую вежу. Яе будаўнікі былі расселены па ўсім свеце, сталі гаварыць на розных мовах. Аднак зараз бачны адваротны працэс — глабалізацыя, у выніку якой колькасць моў хутка змяншаецца, быццам усё вярталася да адзінай універсальнай мовы. І людзі быццам ссейваюцца з усяго свету ў аазісы дабрабыту. Мовы ссейваюцца, затое хутка расце колькасць рэлігійных плыняў. І магчыма, што тая легенда пра будаванне Вавілонскай вежы не адносіцца да колішняга, але да нашага часу, калі людзі рвуцца ў Нябёсы не па цагляных прыступках, а шукаючы туды сцежак па канфесійных прыступках. Для прыкладу, узнімаючы пад нябёсы іншых людзей у якасці святых, у якасці такіх духоўных чыноўнікаў, якія маюць уяўны доступ да Прастола...

Рвануўся і я ў бок нябёсаў, але ж пара і зямлі нашай крышку прысвяціць увагі. Вось нядаўна пабываў я ў белавежскай царкве. І там, як на далоні, пабачыў тыя сюжэты, пра якія алегарычна расказваецца ў Бібліі...

Белавежская царква была змуравана ў 1890-х гадах з волі цара Аляксандра III. Вікіпедыя: «Храм быў узведзены на месцы драўлянай царквы з першай паловы XIX стагоддзя, якая пасля знясення была перанесена ў вёску Трасцянка на могілкі. У студзені 1895 года новая царква была асвечана, лічылася яна найпрыгажэйшай у Гродзенскай губерні. Будоўля была ўзведзена з чырвонай цэглы, якую на месцы вырабляў запрошаны з Верхняй Сілезіі немец Юліус Карл Мілер. На фундаменты былі скарыстаны часаныя камяні з Белавежскай пушчы. Корпус храма вянчалі два купалы. Адзін з іх быў прызначаны на званіцу. Звон, вагою ў 125 кілаграмаў, быў так голасны, што ў спрыяльных атмасферных умовах чуваць яго было на акраінах Белавежскай пушчы. З Санкт-Пецярбурга быў прывезены іканастас з кітайскага фарфору. Усе працы былі завершаны ў 1897 годзе напярэдадні візіту ў Белавежу цара Мікалая II».

І далей: «1 верасня 1939 года нямецкія самалёты скідвалі бомбы на Белавежу і адна трапіла непасрэдна ў царкву, другая лягла каля яе паўночнай сцяны, ад выбухаў пабудова была моцна пашкоджана. Выбуховая хваля выбіла вокны і дзверы, асколкамі пашкодзіла іканастас. З купала і прытвора ўпалі крыжы. Святар Свята-Мікалаеўскай царквы Клаўдзій Пушкарскі, які пачаў служыць у гэтым храме з 1 мая 1939 года, паклапаціўся пра аднаўленне парушанага. Дэлегаты, апранутыя ў народныя даматканыя строі, па яго просьбе скіраваліся ў Берлін, і германскія ўлады аказалі дапамогу ў адраджэнні царквы. Аднаўленне пачалося 1 чэрвеня 1943 года. Апроч грошай, выдзеленых нямецкай уладай, збіраліся ахвяраванні з Белавежскага і іншых прыходаў. Пералічваліся грошы з усёй Гродзенскай епархіі. Рамонтныя работы доўжыліся чатыры з паловай месяцы. 17 кастрычніка 1943 года адбылося ўрачыстае асвячэнне адноўленага храма. У першыя пасляваенныя гады пачалі ўпрыгожваць роспісам сцены і скляпенні. Царква ніколі не зачынялася». У пасляваенныя гады праводзіліся неабходныя рамонтныя работы. У 2017-2019 гадах быў праведзены грунтоўны рамонт царквы.

Белавежская царква мае сваю двайнятку ў вёсцы Чыжэўшчына на Кобрыншчыне, будаваную больш-менш у той самы час. Архітэктарамі абедзвюх называюцца розныя асобы, але найчасцей Мікалай Раманаў і Аляксандр Рэмер. Мяркую, што нягледзячы на пашкоджанні, адбудовы і рамонты, воблік белавежскага храма захаваўся такім, які задумалі архітэктары і які быў па душы іх сіяцельствам — царам.

А прача фарфоравага іканастаса ў сценах і калонах царквы знаходзяцца іконы ў фарфоравых рамах; і толькі чатыры фрэскі — чатырох евангелістаў у ветразях пад барабанам. Мяркую, што так выглядаў інтэр'ер храма ў час царскіх малебнаў. Аднак нашы людзі не лыкам шытыя, яны, як тыя вавілонцы, як тыя жрацы Ваала, таксама хочуць неяк прыблізіцца к нябёсам. Таму на падаконніках і ўсяляких падпорках шматлікія разнамасныя іконы. Ну, людзі нясуць свае шчырыя ахвяры ў царкву і тых ахвярапрынашэнняў не выпадае дзяваць у іншыя месцы. Але ж ёсць у белавежскай царкве і адна асаблівая ікона, велізарная, прыблізна тры з паловай на паўтара метра, ікона Пакрова Багародзіцы. І куды яе было дзяваць? Паставілі пры пярэдняй сцяне левага трансепта, засланяючы частку тамашніх акон. Можа лепш было б той мегаабраз прыставіць да правай сцяны правага трансепта, дзе нічога не засланяў бы, але ж тады велізарная ікона Пакрова была б захілена ад вернікаў... Бо ж найважнейшая шчырая вера, а не эстэтыка храмавага інтэр'ера...

То яшчэ крыху пра Пакроў; Вікіпедыя: «У аснове свята паданне пра з'яўленне Божай Маці ва Влахернскім храме ў Канстанцінопалі ў 910 годзе. У 910 годзе, пры імператары Льве Мудрым і патрыярху Макарыі, візантыйская імперыя вяла вайну з сарацынамі-мусульманамі (у шэрагу крыніц — з плямёнамі русаў), і Канстанцінопалю пагражала небяспека. У нядзелю 1 кастрычніка ў час усяночнага чування, калі Влахернская царква была перапоўнена людзьмі, якія маліліся, святы Андрэй, Хрыста дзеля юродзівы (Андрэй, які назіраў гэтае з'яўленне, быў славянінам, у маладосці трапіў у палон і быў прададзены ў Канстанцінопалі ў рабства мясцоваму жыхару Феагносту) а чацвёртай гадзіне ночы, падняўшы вочы да неба, убачыў Прасвятую Багародзіцу, што ішла па паветры і была асветлена нябесным святлом, акружаная ангеламі і святымі (Багародзіцу суправаджалі Іаан Хрысціцель і Іаан Багаслоў)...».

І пра Влахернскі храм: пабудаваны ў палове V стагоддзя. У 1434 годзе царква загарэлася і завалілася; грошай на адбудову ў візантыйскіх цароў не было. Толькі ў 1867 годзе на яе месцы была збудавана невялікая грэчаская часоўня. А сам Влахернскі храм астаўся на палотнах набожных жывапісцаў, у тым ліку і ў Белавежы...

У белавежскай царкве ёсць і ікона апошняй царскай сям'і. Хаця яна ў драўляным абрамленні, то тое абрамленне такое ж, як і фарфоравае абрамленне арыгінальных ікон. І так тая рамка ўстаноўлена, што гарманічна зліваецца з задуманай архітэктарамі ідэйнай цэласцю інтэр'ера...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960